*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 4 лістапада 1988 г. № 44 (3454) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**

**ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА! УЗБАГАЧАЙЦЕ ДУХОЎНЫ СВЕТ, ФАРМІРУЙЦЕ АКТЫЎНУЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ ЧАЛАВЕКА, ПРАЎДЗІВА І ЯРКА АДЛЮСТРОЎВАЙЦЕ ХОД ПЕРАБУДОВЫ!**

## Святкуюць, абмяркоўваюць, спрачаюцца...

ЗАЎТРА, 5 ЛІСТАПАДА,— АПОШНІ ДЗЕНЬ РАБОТЫ ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА КАМПАЗІТАРАЎ БССР.

Гэты творчы форум, прысвечаны 50-годдзю кампазітарскага саюза рэспублікі, стаўся строгімі агледзінамі набыткаў нашага музычнага мастацтва і —ягоным святам.

За дзень да пачатку пленума друк паведаміў пра ўзнагароджанне Саюза кампазітараў рэспублікі Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Да нагоды юбілею саюза былі ўзнагароджаны за плённую работу па эстэтычным выхаванні працоўных, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці музыказнаўца Вера Сізко і кампазітар Кім Цесакоў — Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, кампазітары Віктар Войцік і Эдуард Зарыцкі — Граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

І яшчэ адна ўрачыстая навіна: Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за вялікія заслугі ў развіцці беларускага савецкага музычнага мастацтва і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці *кампазітару* Генрыху Вагнеру нададзена званне народнага артыста Беларускай ССР.

Перад першым сімфанічным вечарам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўдзельнікаў і гасцей пленума вітаў са сцэны старшыня праўлення СК БССР народны артыст СССР Ігар Лучанок. Ён, прынамсі, падкрэсліў, што пленум праходзіць у незвычайны час, у перыяд галоснасці і дэмакратызацыі, і нацэліў сваіх калег на прынцыповую гаворку.

Шырокая панарама аўтарскіх і выканаўчых імёнаў... На парадку дня—тры сімфанічныя канцэрты і два —у камернай зале на Залатой Горцы; паказ музыкі для народнага аркестра, песень і эстрадна-інструментальных твораў, рэпертуару для дзяцей і юнацтва і для камернага аркестра; канцэрт харавой музыкі і творчая справаздача студэнтаў-кампазітараў. А яшчэ — навукова-тэарэтычная канферэнцыя «Праблемы гісторыі і тэорыі беларускай музыкі».

У праграмах пераважае ўжо знаёмая і нават добра вядомая музыка.

Заўтра—выніковая дыскусія.

НАШ КАР.



Выступаюць «Палескія зоры». Фота Ул. КРУКА.

Як мы паведамлялі ўжо, у Мінску пачаліся Дні паказу дасягненняў народнай творчасці абласцей рэспублікі. Гэтае важнае мерапрыемства праводзіцца ў гонар 70-годдзя ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі.

На працягу тыдня мінчане і госці сталіцы рэспублікі атрымалі магчымасць пазнаёміцца з народнымі талентамі Прыбужжа. Завяршальным акордам Дзён Брэстчыны стаў вялікі канцэрт, які прайшоў 29 кастрычніка ў Палацы культуры Белсаўпрофа. Сімвалічная назва яго —«Спявай, маё Палессе»... Сваё майстэрства прадэманстравалі вядомыя ансамблі «Радасць», «Лялькі», «Палескія зоры», «Брэсцкі сувенір»...

На заключным вечары прысутнічалі міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч і старшыня Белсаўпрофа У. І. Ганчарык.

Эстафету ад брастаўчан прымае Віцебская вобласць, дні якой пройдуць з 14 па 20 лістапада. *А на старонцы 13 гэтага нумара наш карэспандэнт расказвае пра выстаўку работ народных умельцаў Брэстчыны.*

## СЛОВА БЯРУЦЬ КАМУНІСТЫ

Адбыўся справаздачна-выбарчы *сход партыйнай* арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. Яго ўдзельнікі абмеркавалі справаздачны даклад сакратара партбюро Г. Пашкова, а таксама ўнесенае ў працэсе сходу пытанне «Аб падтрымцы лініі партыі на *перабудову* і абнаўленне». Апошняе было пастаўлена на парадак дня ў сувязі з пэўнымі публікацыямі ў друку («Эвалюцыя палітычнага невуцтва», «Нам з *вамі не па дарозе*», «Пена на хвалі перабудовы») і іншымі антыперабудовачнымі з'явамі ў ідэалагічным жыцці рэспублікі.

На другі дзень сходу (ён быў па ўважных прычынах прадоўжаны) вострая гаворка ішла вакол падзей, звязаных з намерам гарадскога фонду культуры і аб'яднання маладых літаратараў «Тутэйшыя» правесці мітынг-рэквіем «Дзяды» — памяці ахвяр сталінізму і фашызму.

У двухдзённай дыскусіі прыняло ўдзел каля 30 чалавек.

Абраны новы склад партбюро. Сакратаром партбюро абраны Г. Пашкоў. Абраны таксама дэлегаты на раённую партканферэнцыю.

У рабоце сходу прымалі ўдзел першы сакратар Мінскага ГК КПБ У. Р. Галко, міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч, загадчык сектара ЦК КПБ А. І. Бутэвіч, загадчык аддзела Мінскага АК КПБ А. Я. Стрыжэвіч, першы сакратар Партызанскага РК КПБ А. М. Герасіменка, сакратар райкома В. Ц. Хатановіч.

Справаздача з партыйнага сходу будзе надрукавана ў адным з бліжэйшых нумароў «ЛіМа».

НАШ КАР.

## «КНІГАРНЯ»: НУМАР ПЕРШЫ

Прыйшоў да чытача першы нумар газеты —«Кнігарня», інфармацыйна-рэкламнага бюлетэня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Рэспубліканскага праўлення Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі. Адкрываецца ён інтэрв'ю са старшынёй Дзяржкамвыда БССР М. І. Дзяльцом, *які расказвае аб профілі і задачах новага выдання.*

У нумары: пажаданні газеце аматараў кнігі, расказ пра кожнае з дзесяці рэспубліканскіх выдавецтваў, рэкламны праспект бібліятэкі «Скарбы сусветнай літаратуры», якую з наступнага года пачынае выпускаць выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пад рубрыкай «Прэм'ера кнігі» прадстаўлены зборнікі «Спеў пра Расію» і «Песнь о Белоруссии». Расказваецца пра энцыклапедыю «Францыск Скарына і яго час» (падрабязней пра гэта выданне чытачы «ЛіМа» даведаюцца ў бліжэйшых нумарах з інтэрв'ю намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі А. Петрашкевіча).

Нумар ілюстраваны, мае разнастайную інфармацыю, у тым ліку аператыўную —«Сігнальныя экземпляры».

Пачатковы тыраж «Кнігарні» пяць тысяч экземпляраў, яна распаўсюджваецца праз кіёскі «Саюздруку».



КНІГАРНЯ

Знайсці свайго чытача

## УНУМАРЫ:

# Сонечным нядзельным днём...

НЕ ТРЭБА быць вытанчаным празарліўцам, каб уявіць, якую масу народа збярэ неадназразова паўторанае ў «Вячэрнім Мінску» паведамленне пра забарону Мінгарвыканкомам мітынгу-рэквіема, заяўленага гарадскім аддзяленнем Беларускага фонду культуры і «Тутэйшымі» на нядзелю 30 кастрычніка.

(Забарона, як вынікала з тэксту паведамлення, была прадыктавана святой упэўненасцю гарадскіх улад у тым, што народныя традыцыі і звычаі абавязаны адраджацца не ў народзе, а ў службовых кабінетах яго слуг. І толькі ва ўстаноўлены зверху час).

Не трэба быць тонкім назіральнікам, каб убачыць: гэтай жа мэце—прываблiванню як мага большай колькасці цікаўных—павінны былі служыць і астатнія меры: спыненне руху грамадскага і асабістага транспарту (і нават метро!) у напрамку Маскоўскіх могілак, ачапленне на вуліцах, аўтобусы і грузавікі з міліцыяй...

Мэта была дасягнута, і к дзвюм гадзінам апоўдні ля брамы Маскоўскіх могілак сабралася некалькі тысяч народу. Зусім мірна і ўзвышана настроеныя, па-святочнаму апрануты людзі, многія з кветкамі—прыйшлі ўваскрасіць у памяці імёны і вобразы даўно загінуўшых і памерлых.

Але далейшае ўваскрасіла ў нашай памяці зусім іншыя карціны. Адбылося нешта неверагоднае.

Зянон Пазняк (толькі што літаральна адбіты ў міліцыянтаў, якія сіліліся яго схапіць на праспекце) заклікае захоўваць спакой і парадак. Аўтарытэтнасць гэтага неаспрэчнага кіраўніка «Мартыралогу Беларусі» не выклікае сумнення, пра што сведчыць і тое, што яго заклік да разважнасці і парадку не быў праігнараваны прысутнымі. Тым больш, што ім было аб'яўлена: арганізатары мітынгу ад яго правядзення адмовіліся, вырашыўшы абмежавацца ўскладаннем кветак да магіл П. Машэрава і У. Караткевіча. Дык вось, заклік З. Пазняка да парадку быў зразуметы старшымі афіцэрамі МУС як кліч да наступлення. І пад выразныя каманды палкоўнікаў, падпалкоўнікаў і маёраў міліцэйскія шарэнгі рушылі на людзей.

І пакуль міністр унутраных спраў рэспублікі генерал В. А. Піскароў з жонкай мірна прымалі мінчан у сябе ў гасцёўні («Сустрэча для вас» на нядзельным блакітным экране), гаворачы пра градкі на дачы, развядзенне куранят і любоў да мастацкай літаратуры, даручаныя яму сілы практыкаваліся ў манеўрах, набліжаных да баявых наступальных дзеянняў... па разгону людзей, падаўленні ініцыятывы і перабудовы.

Аўтобусы, грузавікі, легкавыя машыны з «мігралкамі», бітком загружаныя ахоўнікамі парадку, акружэнне і захоп «палонных», плексігласавыя шчыты, шлемы, пагражальныя аграмадзіны вялікагрузных аўтамабіляў з закратаванымі вокнамі і магутнымі вадамётамі на дахах кабін, ланцугі людзей у шынялях, што рассеяліся па лесе, перагаворы па рацыі, новыя і новыя атакі — на працягу некалькіх гадзін велізарная тэрыторыя, абмежаваная вуліцай Каліноўскага, Ленінскім праспектам і да самых трагічна вядомых Курапат, была ператворана ў палігон ледзь не ваенных дзеянняў, праўда, аднабаковых.

Усяму гэтаму процістаялі толькі кветкі. І з боку тых, хто сабраліся, каго доўга яшчэ ганялі па лесе, як зайцоў, пакуль нарэшце не загналі ў метро, не было не толькі дзеянняў, якія падрываюць асновы Савецкай улады, не толькі заклікаў да такіх дзеянняў, а нават і парушэнняў правілаў вулічнага руху. (Акрамя тых выпадкаў, калі людзей штурхалі на праездную частку).

Пагадзіцеся, калона «дэманстрантаў», што паважліва застыла перад чырвоным святлафорам — такога не ўбачыш ні па якім «Інтэрбачанні».

Абавязак пісьменніка пісаць толькі пра тое, што ён бачыў і зразумеў асабіста. Ва ўсякім выпадку ў такой сітуацыі.

Па маіх уласных ацэнках, у падаўленні неіснуючых хваляванняў удзельнічала некалькі тысяч (!) людзей у міліцэйскай форме. Хутка іх колькасць яўна перавысіла колькасць разганяемых «дэманстрантаў». Гаворка, такім чынам, ідзе не пра «попустительство» гарадскіх улад да беспарадкаў, не пра іх клопат аб «спакоі грамадзян», а хутчэй за ўсё аб старанна падрыхтаванай і таму «бездакорна» праведзенай акцыі па застрашэнні.

Матывы? Дэмакратыя — складаная рэч, асабліва для людзей ва ўладзе. Хутчэй за ўсё імі і было вырашана «пайсці на прынцып»: свядома прадэманстраваць сваю падрыхтаванасць і магутнасць ва ўціхамірванні мас. І сваю рашучасць не спыняцца ні перад якімі, нават надзвычайнымі мерамі.

Такім чынам, з боку гарадскіх улад была, на маю думку, зроблена спроба ўзвесці бар'ер, далей за які перабудова і дэмакратызацыя, на іх погляд, не павінны прайсці. Вызначаны «рубяжы» і прадэманстравана іх непрыступнасць.

Але гісторыя, ды і просты жыццёвы вопыт вучаць, што няма больш бесперспектыўнага занятку для ўлады, як тузацца з народам — хто каго. Тым больш сёння, тым больш у краіне, якая стала на шлях вызвалення ад ганебнага грузу сталіншчыны, бюракратызму, каманднa-адміністрацыйных метадаў, на шлях усталявання законнасці, прававой сістэмы.

Не ведаю праграм нефармалаў — яны не абнародаваны і пазнаёміцца з імі я не меў магчымасці. Тым не менш, як сведка падзей і грамадзянін, лічу сваім абавязкам выказаць пратэст супраць гвалту і беззаконня. Лічу таксама — віноўнікі таго, што адбылося ў мінулую нядзелю, павінны панесці адказнасць.

**Яўген БУДЗІНАС,**
**публіцыст.**

**Узнікае пытанне: а як жа быць з прэзумпцыяй невіноўнасці? Чаму сам пракурор ставіць мяне ў такое становішча, калі я вымушаны даказваць, што я не вярблюд...**

**Алесь СВІСТУНОВІЧ,**
**дыктар рэспубліканскага радыё.**

●

**Мы, студэнты Наваполацкага політэхнічнага інстытута, даведаліся з друку аб стварэнні ў нашай рэспубліцы гісторыка-асветніцкага таварыства «Мартыралог Беларусі». Мы знаёмыя з публікацыямі ў прэсе пра злачынствы часоў сталінскіх рэпрэсій, пра Курапаты, Тросна і г. д. Лічым, што гэтае таварыства, аўтарытэт якога падмацаваны такімі паважанымі арганізацыямі, як творчыя саюзы рэспублікі, і такімі шаноўнымі людзьмі, як сумленне нашай нацыі Васіль Быкаў, павінна заняцца стварэннем летапісу людскіх і матэрыяльных страт нашага народа ў жорсткія гады сталіншчыны. Выступаць супраць гэтага таварыства і яго мэт—значыць, выступаць за магчымасць вяртання беззаконня і гвалту ў нашае жыццё, за насаджэнне гістарычнага бяспамяцтва. Стварэнне помнікаў-мемарыялаў ахвярам рэпрэсій — пытанне, вырашанае XIX партыйнай канферэнцыяй, і яно наогул не з'яўляецца дыскусійным!**

**Мы падтрымліваем высакародныя мэты таварыства «Мартыралог Беларусі», спадзяёмся атрымліваць поўную інфармацыю аб яго дзейнасці з нашай прэсы і мець магчымасць браць у ёй свой пасільны ўдзел.**

**ПУГАЧ, ГРЫНЕЎ, АКСЁНАЎ, ГАЎРЫЛЬЧЫК, СЦЕПАНЮК**
**і іншыя, усяго 31 подпіс.**
г. Наваполацк.

●

**На вялікі жаль, я не патрапіў на ўстаноўчую канферэнцыю «Мартыралогу Беларусі» ў Доме кіно 19 кастрычніка і — па горкай іроніі лёсу — упершыню пачуў пра яе на інструктажы дружыны ў апорным пункце аховы правапарадку. Не стану пераказваць пачутае, бо тое было толькі слабым, непісьменным адбіткам публікацый у «Вячэрнім Мінску». Было прыкра і сорамна за афіцэра міліцыі, за чалавека, які павінен ахоўваць правапарадак і закон.**

**Але я адчуў і іншае — страх. І за сябе, вядома, хоць у гэтай справе я зусім дробная сошка. Але больш страшна за справу. Нас вучылі, што шляхам прагрэсу гісторыя ідзе да лепшага. Аднак відушчага не падмануць догмы, а гістарычна непазбежнае можа быць так далёка адкінута рэакцыяй, што нават і праўнукам нашым не дачакацца «светлай будучыні», калі, вядома, чакаць яе як падарунак аднекуль збоку ці зверху. Наўрад ці трэба цяжкую і небяспечную справу дэсталінізацыі грамадства ўскладаць толькі на плечы сумленнай інтэлігенцыі.**

**Я ні на каліва не пераацэньваю свае магчымасці, і дакладна ведаю, што няма ў мяне ні ведаў прафесійнага гісторыка, ні таленту публіцыста, які б здолеў публічна і доказна выкрываць сталінізм, у якія б недатыкальныя зоны ён не хаваўся. У мяне ёсць толькі разуменне таго, што такое сталіністы і на што яны здольны. Перакананы таксама, што нельга аддаваць прарокаў пад камяні, нельга пакідаць нікога без падтрымкі. Таму я і хачу далучыцца да «Мартыралогу Беларусі».**

**Зноў паўтару, што не пераацэньваю ні сіл сваіх, ні магчымасцей дзеля карысці гэтай арганізацыі. Проста мне было б вельмі сорамна заставацца ўбаку ад ачышчальных працэсаў, якія адбываюцца ў нашым жыцці.**

**Ведаю па сваіх знаёмых, што не я адзін шчыра пацягнуўся душою да праўды, і перакананы — на зварот таварыства адгукнуцца сотні, тысячы сумленных людзей, як адгукнуліся ў свой час на мітынг у Курапатах. Толькі разам, усёй грамадою можна змагацца з рэшткамі сталіншчыны.**

**С. ДЫЧОК,**
**інжынер ВА «Інтэграл».**

# СЛОВА Ў ПАДТРЫМКУ

**Камуністы Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы на сваім сходзе абмеркавалі пытанне «Аб палітычнай сітуацыі ў Мінску, якая склалася пасля ўтварэння таварыства «Мартыралог Беларусі». Член грамадскай рады гісторыка-асветніцкага таварыства, артыст тэатра В. Манаеў праінфармаваў прысутных пра мэты і задачы гэтай добраахвотнай арганізацыі, зачытаў яе дэкларацыю.**

**На сходзе выступілі: галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Раеўскі, народныя артысткі БССР З. Браварская і М. Захарэвіч, заслужаны артыст рэспублікі В. Белахвосцік, акцёры Ю. Авяр'янаў, А. Падабед і іншыя.**

**У аднагалосна прынятай рэзалюцыі партыйнага сходу выказваецца падтрымка гісторыка-асветніцкаму таварыству «Мартыралог Беларусі» (у яго фонд купалаўцы мяркуюць сыграць спектакль «Надзея Путніна, яе час і яе спадарожнікі»), асуджаюцца шэраг публікацый у друку, у якіх камуністы тэатра бачаць спробу пасеяць варожасць паміж творчай інтэлігенцыяй і іншымі працоўнымі рэспублікі, а таксама метады, скарыстаныя органамі ўнутраных спраў у дачыненні да людзей, што сабраліся 30 кастрычніка ля Маскоўскіх могілак.**

●

**2 лістапада ў рэспубліканскім Доме кіно па ініцыятыве прэзідыума праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР адбыўся сход, у якім разам з кінематаграфістамі ўдзельнічалі прадстаўнікі іншых творчых саюзаў, вучоныя, студэнты, журналісты. Вёў сход старшыня прэзідыума праўлення СК БССР В. А. Нікіфараў. Сярод запрошаных быў старшыня Мінскага гарвыканкома У. І. Міхасёў.**

**Сход падтрымаў дзейнасць нядаўна створанага рэспубліканскага добраахвотнага гісторыка-асветніцкага таварыства «Мартыралог Беларусі». Была выказана прапанова аб неабходнасці аб'ектыўнага расследавання падзей 30 кастрычніка ў Мінску.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Экалогія. Закон. Грамадства.

«Круглыя сталы» па экалагічных праблемах, якія праводзяцца ў Доме літаратара ў Мінску з удзелам спецыялістаў, вучоных, творчай інтэлігенцыі, зрабіліся ўжо традыцыйнымі. Але «круглы стол» пад назвай «Экалогія. Закон. Грамадства», што адбыўся 20-га кастрычніка, меў свае асаблівасці.

*Па-першае*, самы актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы прынялі разам з пісьменнікамі мастакі. На пачатку пасяджэння мастацтвазнаўца Э. Грамыка паведаміла, што рэспубліканскі Палац мастацтваў рыхтуецца да правядзення ў наступным годзе вялікай выстаўкі на тэму экалогіі. А ўдзельнікі «круглага стала» змаглі пазнаёміцца перад уваходам у канферэнцзалу з невялікай выстаўкай работ студэнтаў БДТМІ, прысвечанай ахове прыроды.

Па-другое, у Дом літаратара былі запрошаны на гэты раз і работнікі праваахоўных органаў рэспублікі.

У прыватнасці, намеснік Пракурора БССР І. Сашчэпа расказаў прысутным, што прававая рэформа, якая павінна адбыцца ў нашай дзяржаве, абавязкова закране і прыродаахоўнае заканадаўства, сёння вельмі недасканалае. Ён прывёў некаторыя лічбы: толькі за апошнія год і дзевяць месяцаў за розныя экалагічныя парушэнні Пракуратурай рэспублікі былі прыцягнутыя да адказнасці звыш тысячы грамадзян. Каля ста чалавек панеслі пакаранне, прытым некаторыя прыгавораны да пазбаўлення свабоды і значных штрафаў.

Удзельнікі «круглага стала» задавалі вострыя пытанні прадстаўнікам Пракуратуры Міністэрства юстыцыі, Дзяржарбітражу БССР, а таксама рэспубліканскіх Дзяржаграпрома і Дзяржкампрыроды, Беларускага таварыства аховы прыроды. *Закранаціся самыя розныя* праблемы: недапушчальнае забруджванне паветра і вады прамысловымі выкідамі, нерацыянальнае землекарыстанне і ведамасны дыктат меліярацыйных глаўкаў, маруднае выкананне пастаноў урада рэспублікі аб захаванні возера Нарач, немэтазгоднасць будаўніцтва АЭС на Гарадоччыне.

На пасяджэнні «круглага стала» сярод іншых выступілі першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, пісьменнікі І. Новікаў, А. Петрашкевіч, У. Федасеенка, І. Шальманаў, В. Якавенка.

**Наш кар.**

# Азёры—наш скарб

**Краем блакітных азёраў здаўна называлі Беларусь. А ці беражліва мы ставімся да гэтага унікальнага прыроднага багацця? Ці захаваем гэты неацэнны скарб для нашчадкаў? Калі ўжо сёння не прыняць самыя рашучыя меры, дык многія з больш як 1700 азёраў могуць знікнуць з карты нашай рэспублікі. Трывогу выклікае стан Браслаўскіх азёраў, азёраў Вялікае, Нарач, Свіцязь, Сенненскае. Пад пагрозай гібелі знаходзіцца возера Чырвонае на Палессі. Усё менш застаецца ў вадаёмах каштоўных відаў рыбы—чахоні, жэраха, стронгі ручаёвай, сцерлядзі. Бяднее азёрная і прыазёрная флора. Пра ўсё гэта гаварылася на рэспубліканскай нарадзе вучоных, спецыялістаў і пісьменнікаў «Азёры Беларусі», арганізаванай сумесна Акадэміяй навук, Міністэрствам народнай адукацыі і Саюзам пісьменнікаў БССР, што адбылася ў канцы кастрычніка ў Мінску, у Доме літаратара.**

**Адкрыў пасяджэнне віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Ліштван.**

**Пра азёры як найвялікшую эстэтычную каштоўнасць, як выток творчага натхнення гаварыў ва ўступным слове заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Грамыка.**

**З асноўным дакладам «Сучасны стан, рацыянальнае выкарыстанне і ахова азёрных вадаёмаў Беларусі» выступіла доктар геаграфічных навук, прафесар БДУ імя У. І. Леніна В. Якушка. У дакладзе было нагадана, што азёры—галоўная крыніца чыстай пітной вады. Між тым, хоць яны і з'яўляюцца унікальнай экасістэмай, здольнай да самаачышчэння, азёры і цесна звязаныя з імі малыя рэкі ўжо не вытрымліваюць прэсу навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, наступлення прамысловасці. Найбольшы ўрон вадаёмам наносяць прамысловыя сцёкі і сцёкі жывёлагадоўчых ферм, нерацыянальная меліярацыя і драпежніцкія спосабы рыбалоўства.**

**Усяго на нарадзе прагучала больш як дваццаць дакладаў. Вось тэмы толькі некаторых з іх: «Прыродаахоўныя тэхналогіі ўжывання ўгнаенняў у зоне азёраў», «Азёры Браслаўшчыны», «Уздзеянне адмоўных фактараў на стан азёраў БССР і мерапрыемстваў па іх ліквідацыі», «Стан і праблемы аховы паляўнічай фауны азёрных вадаёмаў», «Стан і выкарыстанне вадасховішчаў на Беларусі».**

**На пасяджэнні выступілі старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па ахове прыроды В. Казлоў, намеснік дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі, кандыдат сельскагаспадарчых навук Г. Васілюк, намеснік дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы раслін, кандыдат сельскагаспадарчых навук А. Скур'ят, доктар сельскагаспадарчых навук П. Ніханчык (Беларускі навукова-даследчы інстытут земляробства), загадчык аддзела «Белсельгасхіміі» Я. Басалыга, намеснік галоўнага інжынера Белдзіправадгаса В. Масюк, доктар тэхнічных навук М. Лапатка (Інстытут торфу АН БССР), супрацоўнікі Інстытута заалогіі АН БССР кандыдат біялагічных навук Т. Шаўцова і кандыдат біялагічных навук Ю. Вязовіч, прафесар Белдзяржуніверсітэта В. Шыронаў, старшыня калгаса «Свіцязь» І. Санько, пісьменнікі Л. Караічаў, Я. Пархута і іншыя.**

**Вёў пасяджэнне старшыня секцыі публіцыстыкі і нарыса СП БССР В. Якавенка.**

**Нарада вучоных, спецыялістаў і пісьменнікаў прыняла сумесную рэзалюцыю, у якой вызначаны шляхі паляпшэння экалагічнай сітуацыі і рацыянальнага выкарыстання азёраў Беларусі.**

**НАШ КАР.**

*Перабудове — ідэі абнаўлення*

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# РАКА ПАМЯЦІ

СТАРАЯ, як свет, ісціна: хто не помніць мінулага, не мае будучыні. А мы? Многія з нас не заўсёды помняць, хто збудаваў старую хату, у якой жывём, хто пасадзіў прысады, пратаптаў сцежку. Уласны клопат пра штодзённую булку з маслам не пакідае часу азірнуцца назад. Пад булкай з маслам маю на ўвазе натуральныя і булку, і масла, і машыну, дачу, дываны і крышталь, электронна-камп'ютэрнае акружэнне, іншыя матэрыяльныя адзнакі нашага часу. А іх не пералічыць, ім няма канца, як няма канца і жаданню чалавека займець іх.

Я не ханжа і не аскет. Я не заклікаю на рубяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў лезці назад у пячору, не карыстацца дабротамі цывілізацыі. Кожны мае права добра жыць. Але якой цаной? Лічу, што матэрыяльны бок не павінен засланяць свет з яго трывогамі, клопатамі за агульны наш дом. На кожным кроку сустракаемся мы з абыякавасцю, раўнадушшам, грамадзянскай інертнасцю. Часта даводзіцца чуць: «Я — чалавек маленькі», «Мая хата з краю»... Забываюць, што сёння крайняй хаты быць не можа, сёння ўсе мы ў эпіцэнтры падзей. Што тычыцца «маленькіх чалавекаў», дык яны звонку ой якія сучасныя (асабліва, калі меркаваць па іх знешнім выглядзе). Бачылі плакат «Куплю шосты палец»? Хто бачыў, успомніць, астатнім нагадаю. На плакаце — спялеганая рука. На кожным пальцы багаты пярсцёнак. Пальцы цяжка сагнуць, яны распараныя. Ды вось бяда, не хапае пальцаў для пярсцёнкаў, хоць ты набывай «шосты перст».

**Прачытаў пра бяду, што здарылася на цеплаходзе «Прыамур'е» ў порце Осака ў Японіі, і падумаў: колькі ж іх там было, «шастапалых»? На цеплаходзе, што прывёз турыстаў з Уладзівастока ў Японію, узнік пажар. Не абышлося, на вялікі жаль, без ахвар. Японская грамадскасць літаральна ў першыя ж гадзіны адкрыла банкаўскі рахунак, каб памагчы пагарэльцам. Толькі ў Генеральнае консульства СССР у горадзе Осака паступіла каля 12-ці мільёнаў іен. Японцы хацелі хоць нечым кампенсаваць маральны і матэрыяльны ўрон, што панеслі савецкія турысты. З Уладзівастока па нашых людзей прыслалі другі карабель. Але адплыць у вызначаны час дамоў ён не змог. Да капітана судна прыйшлі турысты з маскоўскай і ўзбекскай груп і заявілі, што не паедуць, пакуль не атаварацць свае іены. Быў выхадны дзень, магазіны зачынены. Прадстаўнікі параходства ўсё ж змаглі нейкім чынам расшукаць радыёапаратуру, якую патрабавалі пасажыры. Прывезлі для продажу ў порт. Але не дагадзілі. Пасажыры заявілі, што ў горадзе Коба гэтая радыётэхніка дзешавейшая. Адміністрацыя падала на прычал таксі. Маладыя людзі рванулі ў Коба. За сотню кіламетраў. Атаварыцца. А ў гэты час наш гандлёвы марскі флот па заяўках вёз на карабель тавары, каб апрануць турыстаў. Адзежа была лепшых замежных фірмаў. Убачыўшы, як масквічы апранаюцца ў курткі «Аляска», малдаўская група, якая такіх куртак не заказвала, загула: «І мы хочам «Аляску». Знайшлі і для іх. Каля пяцідзесяці турыстаў амаль з трох соцень наадрэз адмовіліся пакідаць Краіну ўзыходзячага сонца, пакуль не атаварацца. У некаторых з іх пасля аказалася па 5 — 6 месцаў кладзі. Угінаючыся, валаклі яны на цеплаход «Шарпы», «Джы-ві-сі», «Сан'ё». Людзі пасля такой трагедыі зусім не былі падобны на пагарэльцаў. Каналы японскага тэлебачання, не каменціруючы, паказвалі нашых турыстаў. Угінаючыся ад паклаж, яны ўзбіраліся на борт карабля, а ў той жа час па суседнім трапе паднімалі дамавіны.**

Не ў адкрытым моры, не пад валамі цунамі адбывалася бяда. У адным з першакласных портаў умудрыліся спаліць цеплаход. Хто ж так «праславіў» нас? Сярод турыстаў было каля ста рабочых і работнікаў сельскай гаспадаркі, сто сорак інжынераў, урачоў, выкладчыкаў, пяцёра студэнтаў, каля пяцідзесяці камсамольскіх работнікаў, чатыры партыйныя работнікі. У асноўным малады народ. Вось і прыходзіць думка: а ў якім лесе вырас гэты малады народ? Ды не, вырас ён у нашых сем'ях, у нашым грамадстве. Чаму ж яно мае такія заганы, наша грамадства, што ніяк іх не зжыць? Прычын многа. Спынюся на дзвюх, на маю думку, асноўных.

НЕКАЛЬКІ пакаленняў савецкіх людзей жыло ў дэфармаваным грамадстве. Сталін крывадушна сцвярджаў: самае дарагое ў нашай краіне — чалавек. На самай справе чалавек быў што муха; не толькі жыццё аднаго чалавека, а жыцці мільёнаў нічога не каштавалі. Па меркаванні таго ж «вялікага мысліцеля ўсіх эпох і народаў», на сялянства, якое складала большасць насельніцтва, трэба было глядзець не інакш, як на статак авечак. І ўспрымаць як статак авечак — чым ніжэй стрыжэш, тым гусцейшая расце воўна. І яшчэ як стрыглі! Жыло сялянства без пашпартоў, уцячы ад зямлі, якую зрабілі нямілай, не магло. А культурнага гаспадара, які ведаў зямлю, умеў і любіў працаваць, карміў краіну хлебам, скруцілі ў бараноў рог, скрозь аб'явіўшы яго кулаком або падкулачнікам. Астатнім зямля стала ненавісная. Праца абясцэнена. Слова «калгаснік» стала сінонімам абразы. З канца 20-х гадоў Сталін і яго памагатыя павялі вайну супроць савецкага народа. А там і вайна Айчынная. А там — аж да верасвеўскага 1953 года Пленума — ні ўздыху, ні продыху. І сказалі людзі: мы нагараваліся, няхай нашы дзеці пажывуць. Сказалі, жадаючы дабра. Але сляпая любоў нікога яшчэ не зрабіла шчаслівым. Шмат напладзілася эгаістаў.

У гэтым мне бачыцца першая з прычын.

Другая прычына: разыходжанне слова са справай. За лозунгам, заклікам жыць сумленна, «па-камуністычнаму» хаваліся хлусня, двурушша, дэмагогія. Чалавек выхоўваецца змалку на прыкладзе старэйшага. Народная мудрасць гаворыць: настаўнік, выхавай вучня. Якога ж вучня можа выхаваць дагматык і пустаслоў?

З часоў Арыстоцеля, а славуты філосаф пісаў, што так было і да яго, старэйшыя ідэалізавалі свой час і наракалі на маладых. Думаецца, вялікай бяды тут няма. Наракалі ад жадання бачыць сваю змену лепшай. Каб моладзь, якой застаецца пасля старэйшых і зямля і ўсё на зямлі, любіла працу, любіла ствараць, а не разбураць.

Старэйшым прыемна, што большасць нашых дзяцей любіць працу, правільна разумее сваё прызначэнне жыць на зямлі. Але ж ёсць нямала маладых людзей, якія працаваць зусім не хочуць. Са шкадаваннем мы вымушаны сёння гаварыць пра наркаманію, таксікаманію. І далібог, сярод пакалення моладзі, чыё дзяцінства прыпала на ваенныя гады, такой пошасці не было.

Пахвальнае імкненне маладых да культуры. А яшчэ лепш было б, каб жаданне быць далучаным замянілася жаданнем авалодвання вяршынямі культуры. Праўда, на гэта патрэбна праца і праца. Ёсць жа шлях прасцейшы, які асаблівых намаганняў не патрабуе. Гэта так званая масавая культура. Апрануўся модна, а лепш звышмодна, начапіў крыжык на шыю, узбіў ці наставіў прычоску, уключыў магнітафон па самыя апошнія дэцыбелы — і гатова, балдзей пад шлягер, у якім табе невядома ніводнае слова.

Як жа бараніцца ад такога спусташэння душы? Мабыць, памяццю. Мільённа-асабістай, якая называецца народнай і невынішчальна жыве ў народзе. Афіцыйная памяць у апошнія дзесяцігоддзі была забыўлівая. Як і гістарычная навука, служыла аднаму, другому, трэцяму. Хіба дзіўна, што па гісторыі ў гэтым годзе ў сярэдніх школах не здавалі экзамена? Сумна. Кажуць, з песні слова не выкінеш, гісторыю не паправіш. Папраўлялі, спрабавалі перапісваць. На нейкі час перапісаць можна, але паправіць — не. У гісторыі ёсць непадкупная ахоўніца — людская, народная памяць.

У народнай памяці жывуць не толькі падзеі. Яна хавальніца традыцый, паданняў. Калі вы не будзеце абыякавымі, распытайце старых людзей. Не лічыце, што гісторыя рабілася недзе далёка-далёка, не ў вашым краі. Яна не абышла і вашай мясцовасці.

У БЕЛАРУСІ, бадай, няма ніводнай сям'і, якую б не закранула вайна. Гэтак жа, практычна, як няма ніводнага раёна, у якім не было б сваёй Хатыні.

Ці не ў кожным паселішчы стаіць помнік, на якім — імёны землякоў, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ёсць такі помнік і ў маім Замошшы Любанскага раёна. Вось ужо каторы год 9 мая я бываю там. Сёлета з дачкой пляменніка трэцякласніцай Танюшай Чучалок паклалі мы гронкі чаромхі на пліты помніка. Было рана. А ўдзень хадзілі мы на могілкі да мамы. Зайшоў я і да Савы Паўлава, магілу якога наведваю кожны раз.

**Хто такі Сава Паўлаў?**

**У 1919 годзе, калі белапалякі наступалі на Беларусь, валасны камітэт у Пагосце пакінуў падпольшчыкаў. Сярод іх і першага замошскага камуніста Саву Паўлава, якому дапамагала юная пляменніца Зося. Праз нейкі час Саву Паўлава нечакана арыштаваў конны жандар. Пагнаў перад сабой у Слуцк. Дзе трушком, дзе бягом. Хлопцу было 24 гады, але і ён умарыўся. Папрасіў напіцца і прыпаў на беражок прыдарожнай копанкі. Легіянер з сядла і застрэліў яго... У дваццатым, пасля вызвалення ад белапалякаў, прыязджаў з павета са Слуцка атрад чырвонаармейцаў на магілу Савы Паўлава. Граў духавы аркестр вайсковай музыкі, гаварыліся прамовы, з вінтовак быў дадзены салют. Канешне ж, былі сказаны словы, што камуніста-падпольшчыка ніколі не забудуць.**

**Сёння на магілу, да помніка Саве Паўлаву, што некалькі гадоў назад паставіў сельсавет, выпадкова зойдзе хіба што рэдкі старажыл.**

Многія ў краіне ведаюць пра Епісцімію Фёдараўну Сцяпанаву, якая жыла на Кубані і пахавана ў станіцы Дняпроўскай Цімашоўскага раёна. Дзевяць яе сыноў аддалі жыццё за Савецкую ўладу, за Радзіму.

Але далёка не ўсе нават у Любані, у Дарасінскім сельсавеце, а з маладзейшых і ў родным Замошшы чулі пра Аўдоцю Антонаўну Паўлаву. У час Вялікай Айчыннай вайны загінулі пяцёра яе сыноў: Іван, Аляксандр, Уладзімір, Захар, Міхась. Пяцёра братоў той самай юнай Зосі, што дапамагала падпольшчыку Саву Паўлаву. Сама Зося Канстанцінаўна ў 30-я гады была старшынёй мясцовага калгаса «Ударнік». Тая самая, цяпер састарэлая Зося Канстанцінаўна, якой сёння не заўсёды і дапаможа калгас...

Часта, вельмі часта нашы словы пра клопаты аб ветэранах далёкія ад справы. У свой час я прапаноўваў быламу старшыні Дарасінскага сельсавета ўстанавіць мармуровую дошку на хаце адзінокай Зосі Канстанцінаўны, выбіць золатам імёны пяці яе загінуўшых братоў. Прапанова была з удзячнасцю прынята і... забыта. Прапаноўваў яшчэ і назваць па-іншаму галоўную вуліцу Замошша замест безаблічнай «Колхозная». Чаму б не назваць яе «Вуліца братоў Паўлавых»?

Ці ведаюць пра згаданае маладыя людзі ў Дарасіно, у Замошшы? Ці ведаюць тыя юныя замошцы і дарасінцы, што наязджаюць летам у вёскі да бабуль? Наязджаюць з блізкіх і далёкіх, малых і вялікіх гарадоў. Многія, мабыць, таксама ўпэўнены, што гісторыя рабілася недзе далёка-далёка, але толькі не ў Дарасіно і Замошшы, дзе нарадзіліся іх бацькі, дзе карані іх саміх.

У патрыятычным выхаванні, як мы гаворым, малая радзіма дае прывязку да Радзімы вялікай. Бяздумна нашы меліяратары панішчылі тысячы малых рэчак. Як вынік — абмялелі рэкі вялікія. На вачах мялее і вялікая рака памяці, што жывіцца з крыніц малой радзімы.

**У 1920-м годзе ў складзе бронеатрада, што вызваляў Слуцк ад белапалякаў, быў і той бранявік, з якога выступаў Ленін на Фінляндскім вакзале ў 1917-м.**

**Побач з Замошшам, у Панічах, — магіла Героя Савецкага Саюза партызанскага камбрыга Дзмітрыя Цімафеевіча Гуляева. Непадалёк, у Пагосце, стаіць на пастаменце трыццацьчацвёрка, спіць вечным сном экіпаж Героя Савецкага Саюза Мікалая Анісімавіча Зіноўева. Перад Старобінам — помнік братам Цубам, што паўтарылі подзвіг Івана Сусаніна. У Любані — помнікі партызанцы-падпольшчыцы Фені Конанавай, сакратару падпольнага абкома партыі Аляксею Фёдаравічу Брагіну, магілы Рымы Іванаўны Шаршнёвай, камбрыга Андрэя Сямёнавіча Шашуры... У Любанскім раёне славуты востраў Зыслаў, дзе размяшчаўся Мінскі падпольны абком партыі і штаб партызанскага злучэння. Адсюль на Вялікую зямлю вывозілі самалётам дзеда Талаша, тут выдаваліся газеты «Звязда» і «Чырвоная змена», рыхтаваўся і быў выдадзены зборнік Анатоля Астрэйкі «Слуцкі пояс»...**

Працоўная слава Любаншчыны не менш знакамітая. Але гэта ўжо іншая значная тэма. На жаль, у гаворках пра патрыятызм мала ўспамінаем пра подзвіг працоўны, і робім вялікі пралік.

Яшчэ менш згадваем аргументаў і фактаў з культурнай спадчыны. А наша дабрыня і паблажлівасць амаль загубілі мову. У маладзейшага пакалення глыбокія правалы ў памяці на роднае слова. Не адзін раз даводзіцца нашым людзям, розных нацыянальнасцей збірацца разам. У піянерскім лагеры, на вайсковай службе, у турыстычных паездках, у паездках дружбы, яшчэ шмат у якіх абставінах. І кожны, калі ўзнікне неабходнасць, праспявае песню на сваёй роднай мове. Ды не адну. Акрамя, відаць, беларусаў. Мы часта гаворым пра інтэрнацыяналізм. Але што гэта за інтэрнацыяналізм без сваёй песні, танца, слова, іншых духоўных, культурных набыткаў?

ПРАЧЫТАЎ нядаўна ў газеце «Літаратура і мастацтва» пісьмо настаўніцы з Салігорска Прышчыц. Яна піша: «Вельмі непрыемны ўжо сам факт, што ў Беларусі патрэбна праводзіць сходы, каб агітаваць бацькоў аддаваць сваіх дзяцей у беларускія класы. Чаму так атрымліваецца? У Беларусі кожны год адкрываюцца ўсё новыя і новыя школы і амаль усе яны рускія, ніхто не праводзіць ніякіх сходаў».

Правільна. Так усюды. Начальству, бюракратычнаму ў большасці, цяжка павярнуцца тварам да праблемы. Яму ўсё нешта перашкаджае. То настаўнікаў няма, то падручнікаў. Быццам нельга перавыдаць тыя падручнікі, па якіх вучацца сям-там сельскія дзеці. Жадання няма, павагі да роднай культуры, няма нацыянальнай самасвядомасці ў начальства і ў тых, хто яго напладзіў. Ёсць толькі жаданне выслужыцца, заняць больш высокае ды больш мяккае крэсла.

У становішчы, якое склалася з беларускай мовай у рэспубліцы, вінавата многа людзей. На самых розных паверхах, і ў першую чаргу на вышэйшых паверхах, у калідорах улады. Бязладдзе дапусціла былое Міністэрства асветы. Яго шмат і заслужана крытыкавалі. Але, калі разабрацца, яно было выканаўчым звяном. Нашым штодзённым жыццём руліцца прапаганда. Гэта яе турбавала найхутчэйшае зліццё мовы. Пад «зліццём» разумелася знішчэнне беларускай мовы, звядзенне яе ролі да мясцова-этнаграфічнага экспаната. А замест так званага двухмоўя ўсталяваць аднамоўе, да чаго мы з поспехам прыйшлі на сённяшні дзень.

Знайдзіце хоць аднаго дырэктара школы, які б сваёй уладай пераводзіў школу з беларускай мовы навучання на рускую. Не знойдзеце такога самаўпраўцу. Без указання зверху нічога не рабілася.

Мы ўсе яшчэ пад уражаннем XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі. Пераважная большасць дэлегатаў яе гаварыла пра тое, пра што гаворыць народ, пра тое, што яму баліць.

**Чакаў і я, што будзе сказана і пра мой боль. А ён вялікі. На чарнобыльскім Палессі, на «чарнобыльскай Магілёўшчыне» і, відаць, шмат якіх раёнах яшчэ, бо карты забруджанасці рэспублікі так і не друкуюць, рэзкае павелічэнне розных захворванняў, асабліва ракавых.**

**Меліяраванае Палессе — гэта высушаныя лёгкія Еўропы. Сотні зніклых з твару зямлі рэк і рэчак.**

**Абвалаванне Прыпяці. 2 тоны шкодных выкідаў у паветра на кожнага жыхара Наваполацка. Салёная зямля і салёныя ветры Салігорска. Праблемы, выкліканыя «вялікай» хіміяй у Гародні, Гомелі, Магілёве, Мазыры...**

**Панішчаныя палосы адчужэння паўз дарогі. Яны некалі прымалі на сябе ў 40 разоў свінца і іншай атруты больш, чым астатняе поле. Атруты, што ўтвараецца транспартам. Кажуць, у Англіі паўз дарогі на 30—40 метраў расце быльнёг, які не пускае атруту далей. Гэта ў краіне, дзе кожны лапік зямлі на ўліку. У нас жа цэлыя палі дзічаюць, штогод зарастаюць, запускаюцца. А тут «убачылі» паласу адчужэння. Цяпер той свінец і астатні бруд дапаўняе і без таго небывалую канцэнтрацыю пестыцыдаў на нашым стале.**

**Чакаў, што на канферэнцыі будзе сказана пра нашу мову, нашу школу. Думаў, прывядзе нехта красамоўную лічбу: у Беларусі на роднай мове навучаецца школьнікаў у 7 разоў менш, чым на рускай. Спадзяваўся, што некаму паруліць сказаць, што «Сельская газета» выходзіць па-руску, як і «Гродненская правда» і брэсцкая абласная «Заря», шэраг раённых газет, амаль сто працэнтаў шматтыражак, што пераважная большасць тыражоў кніг, якія выдаюцца беларускімі выдавецтвамі, таксама выходзяць па-руску. Якое ж тут двухмоўе, якое раўнапраўнае брацтва? Ды і што гэта за панцце: дзве родныя мовы? Не можа ніхто з людзей мець дзвюх родных мацярок.**

РАКА памяці, не стань ракой нацыянальнага бяспамяцтва, да якога недалёка. Не дайся, каб, як раку Нямігу, цябе ўвабралі ў трубы і пусцілі пад зямлю.

## З пошты аддзела крытыкі і бібліяграфіі

**У чытацкіх водгуках на тыя ці іншыя кнігі ёсць адна прыкметная асаблівасць: звычайна яны ці рэзка-крытычныя, ці ўзнёсла-захопленыя. І гэта натуральна: чалавек, якога кніга пакінула раўнадушным, не стане пісаць у рэдакцыю.**

**Нашы аўтары, не прэтэндуючы на грунтоўны аналіз твораў, выказваюць нямала трапных назіранняў і слушных заўваг, над якімі варта задумацца. Такім чынам — слова непрафесіяналам, нашым чытачам Ф. Шкірманкову, В. Мартыненку, Ц. Кажамякіну і А. Сланеўскай.**



# БЕЗ ВЕДАННЯ РЭАЛІЙ

У трэцім нумары часопіса «Нёман» за 1988 год апублікавана аповесць Лідзіі Вакулоўскай «Вальфрам—метал цвёрды». У нашай літаратуры, на жаль, мала твораў пра геолагаў увогуле, а пра геолагаў, якія працуюць у раёнах Крайняй Поўначы, — тым больш. Таму з'яўленне новай аповесці пра нялёгкую, а часам і небяспечную працу геолагаў-шукальнікаў можна толькі вітаць.

Дзеянне аповесці адбываецца на Чукотцы. І ўжо адно гэта інтрыгуе. Таемная суровая Чукотка, якая вабіць да сябе смелых людзей, — чым не тэма для пісьменнікаў? Але з кожнай прачытанай старонкай цікавасць змяняецца насцярожанасцю. Дачытаўшы апошнюю — адчуў горыч недаўмення. І міжволі вяртаешся да першай старонкі аповесці, дзе пад фотаздымкам аўтара рэдакцыйная тэкстоўка паведамляе: «...У 50—60-я гады працавала журналістам у Ямала-Нянецкай нацыянальнай акрузе, на Калыме і Чукотцы, шмат ездзіла па Поўначы».

«Шмат ездзіла па Поўначы»... А што за гэтым? На жаль, аўтар вельмі ж павярхоўна валодае тэмай, якую ўзялася раскрыць.

Галоўная гераіня аповесці, Антаніна Сяргееўна Антонава, — маладая і, вядома, прыгожая жанчына, вопытны геолаг, якая прыляцела з Масквы на Чукотку шукаць вальфрам.

На старонцы 8-й чытаем:

**«Начальник лагеря майор Горлинков, мужчина средних лет, с желтоватым лицом, с воспаленными, как от хронической бессонницы, глазами, уже начавший седеть, ответил коротко и ясно:**

**— Политических дать не могу. Запрещено. Уголовники у нас отпетые — убийцы и рецидивисты. В прошлом году тоже геологи к нам обращались. Намучились с ними. Устроят такие?»**

І Антонава згаджаецца...

Аўтар яўна не ведае, як камплектаваліся геалагічныя партыі рабочымі-зняволенымі ў бытнасць «Дальбуда», у тыя гады, калі лагераў на Калыме было больш, чым мядзведжых бярлог у тайзе.

Так, геалагічныя партыі ў тыя гады атрымлівалі рабочых з лагераў. Але, па-першае, ніколі ў партыі не накіроўвалі забойцаў, гвалтаўнікоў, садыстаў і г. д. Па-другое, пытаннямі камплектавання партый рабочымі ніколі не займаліся начальнікі партый, непасрэдна ўваходзячы ў кантакт з адміністрацыяй лагераў.

Антонава прадстае перад чытачом гэткай «суперменшай». Чаго варта яе манера размаўляць з рабочымі-зняволенымі.

**«— Кто еще болен? — спросила она, обводя ледяным взглядом лица».**

І далей:

**«— Хорошо, — сухо сказала она. — Все трое вернетесь в лагерь. Проводник пойдет с вами».**

І Антонава адпускае забойцаў і рэцыдывістаў з праваднікам назад у лагер! У праваднікa, вядома, ёсць зброя. І не думае аўтар, што забойцы і рэцыдывісты спяць і бачаць той момант, калі ім можна будзе ўцячы, а тут ім «на спадачку» такую магчымасць падносіць начальнік партыі! Ды яшчэ і зброя ў іх будзе?

Наіўна ж думаць, што адпетыя злачынцы не пакарыстаюцца такой магчымасцю.

У партыі застаецца 11 чалавек, наперадзе цяжкая дарога. Транспарту ніякага. Антонава ў тэлеграфным стылі тлумачыць задачу і, між іншым, паведамляе:

**«А есть вы будете то, что и все. Полбанки тушенки, пачка галет, сто граммов масла, треть банки сгущенного молока...**

**Продуктов хватит на полтора месяца...» (стар. 10).**

А цяпер давайце зробім элементарны падлік, колькі, зыходзячы з названых Антонавай нормаў, даводзілася на аднаго чалавека прадуктаў. На паўтара месяца гэта складае: 45 пачак галет (12 кілаграмаў), 22 бляшанкі тушонкі (10 кілаграмаў), масла 4,5 кілаграма, 15 слоікаў згушчонкі (6 кілаграмаў), усяго — 32,5 кілаграма.

Трэба думаць, што вопытны геолаг Антонава не абмежавалася пералічанымі вышэй харчамі, а ўзяла яшчэ мінімум круп і макаронных вырабаў, не забыла цукар і соль. Прашу даравацъ мне за такое скрупулёзнае ўдакладненне. Справа ў тым, што ўсё гэта груз, які трэба несці на сабе. Дадайце да гэтага палаткі, а іх мінімум тры штукі, спальныя мяшкі, інструмент... Аўтар, такім чынам, апынулася за рысай рэальнага.

Але пакінем пакуль што карціны побыту. У час абеду Антонава пачынае размову з Махавым.

**«— Махов, Грибков сказал, что вы осуждены за политику. Это правда? — неожиданно спросила она.**

**— Да, — ответил он».**

І далей:

**«— Просто мне хотелось бы задать вам еще один вопрос: за что вас судили? Я слышала, в пятьдесят восьмой статье четырнадцать пунктов: диверсия, шпионаж, саботаж и так далее.**

**— Какая разница, за что и как.**

**— Небольшая, конечно, — согласилась она. — В принципе и то, и другое, и третье — преступление перед Родиной и народом» (стар. 14).**

Размова працягваецца ў тым жа духу.

Так, як гаварыла Антонава, у тыя гады думалі многія. І гаварылі. Але не пры такіх абставінах. Ва ўзаемаадносінах паміж зняволенымі, якія працавалі ў партыі, і геолагамі існавала няпісанае правіла: ніколі не пытацца ў рабочага-зняволенага, за што ён адбывае тэрмін. Ніколі! І гэтае правіла выконвалася абавязкова. Захоча — сам раскажа. Што з сябе ўяўляе чалавек — меркавалі не па тэрміну і артыкулу, а па адносінах да работы, да таварышаў па рабоце.

Тым больш, што падрабязныя характарыстыкі на кожнага зняволенага, якога накіроўвалі ў партыю, начальнік партыі меў.

Аповесць грашыць шматлікімі недакладнасцямі. Ужо калі аўтарка ўзялася пісаць пра работу геолагаў і ўжывае спецыяльныя тэрміны, то абавязана ведаць, што яны азначаюць.

Так, на старонцы 21 чытаем:

**«— Итак, вы еще раз пройдете старым маршрутом. — Взгляд Антоновой скользнул по склону хребта. — И запомните: вольфрам — это светлые жилки на темном поле. Не пропускайте ни одной террасы і распадка».**

Дазволю сабе не пагадзіцца з аўтарам. Зыходзячы з таго, што яе «вальфрам» светлага колеру — гаворка ідзе пра мінерал шэеліт. Але самастойныя прамысловыя радовішчы шэеліту вельмі рэдкія і адносяцца да скарнавага тыпу, таму гэта ніяк не могуць быць «светлыя жылкі на цёмным полі».

Можа сустрэцца шэеліт і ў высокатэмпературных кварцавых жылах сумесна з галоўным мінералам вальфраму — вальфрамітам, які дае 95 працэнтаў усёй здабычы вальфраму. Але тады, паколькі кварц белага колеру, а вальфраміт буравата-чорнага з металічным бляскам, усё будзе наадварот: цёмныя пражылкі і скапленні на белым фоне.

А вось аўтар падносіць чытачам невялікую бытавую сцэнку на старонцы 23. «От воды, никогда не прогревавшейся даже на поверхности, несло холодом...» Потым па волі аўтара адзін з герояў, Махаў, распранаецца, уваходзіць па калена ў ледзяную ваду і мыецца. «Он мылся не спеша, хотя вода обжигала холодом. Экономя свой обмылок, сперва долго тер руки, шею и грудь вязким илом, поливал на себя из котелка, фыркал и отдувался». З усяго прыведзенага тут аўтарскага тэксту праўда толькі ў адным: у рэках і ручаях Чукоткі і Калымы вада не прагравaецца вышэй за +8 градусаў. Але пасля такога купання чалавек калі і застанецца жывы, то інваліднасць яму забяспечана.

Антонава накіроўвае Махава да геолага Патапава. І аднойчы Патапаў расказвае Махаву пра нялёгкі лёс Антонавай.

**«Представьте себе небольшую, поменьше нашей, геологическую партию; трое геологов, включая женщину, она же—жена начальника партии, один проводник и восемь зэков — отпетые, со стажем уголовники. Двое из последних за побеги и убийство своих же лагерных дружков имели на счету по сто с лишком лет срока».**

Штосьці падобнае мне давялося слухаць у маі 1951 года, калі я афармляўся ў Львове на работу ў «Дальбуд». Тады адзін адпускнік-калымчанін «вешаў лапшу на вушы» тым, хто толькі збіраўся ехаць у далёкую і невядомую Калыму. Паўтараю: ні ў адну геалагічную партыю такую катэгорыю зняволеных не накіроўвалі!

Не ўсё добра ў аўтара і з веданнем прыроды паўночнага краю. На старонцы 27 чытаем: «Морошка еще не созрела, была кислая и твердая, негодная для еды. Не то, что голубика, достигшая уже своего изумительного туманно-сизого цвета...» Што датычыць тэрмінаў выспявання буякоў і марошкі, дык спачатку выспявае марошка, а ўжо потым буякі, і ніяк не наадварот.

Ну, добра, з ягадамі прамашка атрымалася, а як жа разумець тое, што чытаем крыху ніжэй? «Вдруг обнаружили, что в реке водится чир — самая крупная рыба из рода сиговых». «...однажды по-

# На жыццёвай пожні

Памятаю, калі пачалі ў нашай краіне цікавую практыку кнігаабмену, былі спробы арганізаваць у кнігарнях і беларускія аддзелы такога тыпу. На жаль, камерцыйны разлік хутка скасаваў гэтую традыцыю: сам кнігаабмен з дапаможніка ў пошуках ператварыўся ў біржу дэфіцыту. А дэфіцыт — гэта перавага попыту над прапановай, у той час як попыт на беларускія кнігі пакуль яшчэ слаба стымулюецца. Работнікаў кніжнага гандлю мала цікавіць, што хтосьці шукае і не знаходзіць «Шляхі вялі праз Беларусь» А. Мальдзіса, двухтомнік М. Багдановіча ці адзін з лепшых у свеце — сёмухаўскі — пераклад «Фаўста».

І ўсё ж беларускі кнігаабмен адбыўся. Яго праз газету «Ніва» (ПНР) аб'явіла тамтэйшае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Прызнаюся, за кнігу беларускага пісьменніка з Польшчы Васіля Петручука «Пожня» мне давялося прапанаваць адзін з раманаў Уладзіміра Караткевіча ды плюс яшчэ зборнік кінааповесцей Кастуся Губарэвіча. Дык ці варта была аўчынка вырабу? З пункту гледжання дэфіцытнасці — безумоўна (паспрабуй дастань у нас беларускую кнігу з Польшчы). А як з мастацкага боку? Вось пра гэта зараз і гаворка.

Ужо тое, што цёплае слова на добры шлях незнаёмай кнігі было напісана Сакратам Яновічам — адным з папулярнейшых беларускамоўных пісьменнікаў Польшчы, якога добра ведаюць і ў Савецкім Саюзе, жывіла надзею на адкрыццё. І яно адбылося. Дый не адно. Сутнасць першага адкрыцця ў наступным: мы неяк прывыклі дзяліць — асабліва ў беларускай літаратуры —пісьменнікаў па пэўных кастах (баталісты, урбаністы, вясковыя і г. д.). Але хіба так важна, дзе жыве герой твора—у фешэнебельнай сталіцы, правінцыяльным мястэчку ці вёсцы? Больш істотна разабрацца ў суадносінах паводзін і ўнутраных, душэўных якасцей чалавека. У гэтым сэнсе і твор В. Петручука прымушае задумацца над маральным воблікам чалавека, яго эвалюцыяй пры зменах сацыяльных абставін. Падзеі і героі, пра якія ён піша, з жыцця беларускай вёскі. Вось гэтая вёска пад санацыйным прыгнётам пілсудчыны, вось кароткі перыяд савецкіх перамен, потым — гады нямецкай акупацыі і, нарэшце, час сацыялістычнага аднаўлення Польшчы. Не, не яна — не вёска асноўнае. А людзі, нашы браты па мове, па гісторыі. Бо кніга В. Петручука, паводле вызначэння таго ж С. Яновіча, гэта «словам запісанае жыццё», а не літаратурная гульня ў жанравую дакладнасць.

Дарэчы, мова — гэта другое адкрыццё, падоранае аўтарам «Пожні». Яго мова — сведчанне таго, што ў літаратуру пачала ўлівацца масавая народная плынь. Петручук не шукае літаратурны заменнік сапраўднаму і натуральнаму полілінгвізму, а адлюстроўвае яго непасрэдна: героі размаўляюць па-паляшуцку, па-польску, па-руску, хоць асноўнай мовай кнігі з'яўляецца беларуская.

Ці не заблытваецца тут чытач? Наўрад. Бо існуе выратавальны эфект кантэксту. А ў выніку, думаецца, у чытача пашырыцца разуменне інтэрнацыяналізму. Бо інтэр — гэта ж паміж, а нярэдка пад гэтай назвай нам падсоўваюць нейкі ўніфікаваны сюрнацыяналізм, наднацыяналізм.

Гаворачы пра натуральнасць мовы В. Петручука, нельга не згадаць і той прыклад, які сёйтой назваў бы фрывольным. Цяжка сказаць, адкуль пайшло негалоснае правіла некаторыя тэрміны і паняцці пазначаць кропачкамі. Але ўсе мы яго пільна прытрымліваемся: забаранілі сабе пяток-другі слоў і цікуем цяпер адзін за адным, каб упікнуць у некультурнасці. Асаблівая стэрыльнасць пануе ў літаратуры, часам нават заканелы рэцыдывіст на старонках рамана гаворыць, як англійскі лорд на афіцыйным прыёме. В. Петручук жа, відаць, вырашыў рэальна, без падфарбоўкі адлюстраваць жыццё, і выбраў адпаведны гутарковы стыль, без залішніх эўфемізмаў, што, паверце, не падарвала даверу чытачоў да аўтара.

Ах, ужо гэтае простанароддзе з яго грубай лексікай... Ёй пагарджалі, а заадно грэбавалі і ім. А яно ж—простанароддзе— нягледзячы на сваю тую «грубасць», было жывой крыніцай духоўнасці і для самых вышкаленых. Лоск ёсць, а духоўнасць згубілі. Ведаем, чаго нельга, а як трэба — забыліся.

Героі В. Петручука не толькі захавалі мову сваю (не тую —абмежаваную правіламі і стылямі, а жывую, гутарковую). Для іх яшчэ жывыя шматлікія народныя традыцыі: бытавыя, рэлігійныя, культурныя. Стары абрад пахавання, калядгы, запусты — жывыя, натуральныя з'явы. Не забылі героі кнігі — звычайныя, зрэшты, сучасныя людзі—і народную песню: яна засталася спадарожнікам іхніх думак і пачуццяў нават у горадзе. дзе два сябры сустрэліся ў рэстаране і загаварылі пра жыццё-быццё. Ды аднаму лягла на душу народная песня, а другі не падтрымаў.

«Што, — кажа, — хочаш, каб нас тут п'яніцы адлупцавалі?

—За што, за спяванне народных песняў?»

---

Васіль Петручук. «Пожня», выдавецтва БГКТ. Беласток. 1987.

Тэатр

# Драматычныя ўражанні

**«ПАКУЛЬ НЕ СЦЯМНЕЕ...» («Сняданак з невядомымі»)**
**У. ДАЗОРЦАВА ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы**

Адразу ж удакладняю: не, гэта не мае першыя ўражанні ад спектакля. Гэта такі спектакль паставіў на падмостках купалаўскага тэатра рэжысёр А. Андросік. Як самыя першапачатковыя ўражанні ад п'есы. Калі яшчэ першая яго частка (па-ранейшай тэрміналогіі — дзея) як бы настройвае нас на глыбіннае спасціжэнне сутнасці тае спрэчкі, таго маральнага паядынку, што вязьмом звязвае людзей, якія даволі выпадкова вымушаны бавіць час сумесна, разам пад дахам лясной дачы. Дача яшчэ і атэлье жывапісца па прозвішчы Старо. Канстанцін Старо...

**Чаму я напісаў «настройвае», а не «ўводзіць», не «ўцягвае»?**

**Таму, што тэатр амаль адразу раскрывае карты не дужа арыгінальнай пастановачнай задумы. На сцэне — твор мастака Старо. Хм-хм... назваць гэта творам, бадай, будзе перабольшаннем. Хутчэй па-вучнёўску старанна намаляваная на палатне голая кабета. Нешта накшталт эскіза — «Ева з яблыкам» — да партрэта, як кажуць, абранай мастаком жанчыны. І акрамя стараннасці, ніякіх адзнак таленту мастака... Праз некаторы час да Старо завітае ягоны сусед па дачы, які ці то заказваў сам, ці то быў запрошаны мастаком да таго, каб з фотакарткі тут, у майстэрні, быў зроблены жывапісны партрэт. Падабізна суседа. І вось партрэт перад намі: фарбы — нібы наглянцаваныя: прылізаныя і бліскучыя. І — «падобны»: у той вечар ролю Суседа выконваў У. Кін-Камінскі, дык і на партрэце быў акурат «ён». Так малююць твар недавучкі ад мастацтва, пасрэдныя рамеснікі, няўдачнікі. Праўда, мы, у зале, яшчэ гадаем: мо голая жанчына — гэта эскіз, а партрэт суседа — адчэпная халтура. Ды раптам сам Канстанцін Старо дэманструе свайму апаненту ў той спрэчцы, пра якую мы будзем зараз гаварыць, свой уласны аўтапартрэт. І на ім маладжавы Старо выглядае... варыянтам партрэта суседа. Нібы і ён быў напісаны глянцаванымі фарбамі з фотакарткі. Старанна і «прыгожа». Ну, амаль так, як гэта робяць кірмашовыя аматары-жывапісцы.**

Не, сапраўды таленавітай асобай і мастаком па натуры Старо ў выкананні Г. Маляўскага быць не можа. І не толькі па ягоных «творах». Па ўсіх паводзінах. Па тым, як гэты мужчына абыходзіцца з жанчынай, якая трымаецца на ягонай дачы гаспадыняй. Завуць яе Маша. Кава, цыгарэта, музыка, пацалунак, абдымкі на падлозе...

Каханне?

Магчыма, але надта ж яно звычайнае, будзённае, стэрэатыпнае. І жанчына актрысы Г. Фёдаравай амаль знарочыста звыклая. Распаўсюджаны жаночы тып. Па адзенні, па макіяжы, па манерах паводзін. Хатняя гаспадыня, афіцыянтка або сакратарка-машыністка ў нейкай канторы. Ах, Старо, няўжо ты не ведаеш: скажы мне, каго ты кахаеш, і я скажу табе...

У параўнанні з п'есай фігуры, умоўна кажучы, ахвяр раптоўнага паядынку з беглымі злачынцамі, якія знайшлі часовы прытулак у загарадным атэлье мастака, — здробнены. Прызначэнне Старо і Машы звездзена да ілюстрацыі: як трымаецца мужчына і як — жанчына перад абліччам ваяўнічага гвалтоўнага зла. Чалавек у капелюшы (так завецца ў спектаклі галоўны антыпод Старо) па нейкіх асабістых меркаваннях усчыняе д'ябальскі эксперымент. Сам выкінуты за межы нармальнай маралі, ён спрабуе давесці — самому сабе і гэтаму шчасліўчыку Старо, — што кожны чалавек па сутнасці сваёй прыстасаванец да вонкавых абставін жыцця. Што кожны — і крымінальны злодзей, і адукаваны мастак — гатовы здрадзіць, рабалепстваваць перад уладай моцнага, пад страхам смерці выконваць любы загад. Менавіта вера ў гэтую асаблівасць чалавека-звера і апраўдвае ў вачах самога Чалавека ў капелюшы ягоны асабісты лёс. Падлюга чалавек, мярзотнік: да ўсяго прызвычайваецца, да ўсяго гатовы...

Артыст В. Белахвосцік даволі апантана нясе гэтую думку як галоўнае перакананне свайго персанажа. Больш таго, акурат яму і ўдаецца на нейкі момант як бы «адключыць» свайго героя ад канкрэтных жыццёвых абставін, у якіх ідзе гэты раптоўны і недарэчны, з рацыянальнага пункту гледжання інтарэсаў Чалавека ў капелюшы, дыспут пад дахам мастацкай майстэрні. Старо спрабуе абвергнуць пачварную мараль нечаканага госця, які трымае гаспадара як заложніка пад прыцэлам ружжа. Па-акцёрску адчувальна В. Белахвосцік часам абстрагуецца ад мітусні сваіх хаўруснікаў па зграі — ад пільнай насцярожанасці Поршаня і ад наіўнага адчаю Івана. Яму імпануе гэтак інтэлектуальна падыскутаваць з дасведчаным чалавекам, які пнецца выставіць сябе па-рыцарску шляхетным праўдалюбам. Персанажу В. Белахвосціка мала быць гаспадаром, ён хоча быць і ідэолагам у сваім хаўрусе.

Паўтару яшчэ раз: першая частка спектакля, пастаўленага А. Андросікам, абяцае нам такі дзіўнаваты дыспут, такое сутыкненне палярных характараў і светапоглядаў. Праўда, у п'есе характары акрэслены павярхоўна і прыблізна, і акцёру, вядома, цяжка ў пошуках не паўторнай адметнасці абапірацца на тэкст ролі, амаль пазбаўлены індывідуальнасці. Мовай персанажы адрозніваюцца: гаворкай звычайных людзей і лаянкай раз'юшаных бандытаў.

Рэжысура вельмі падрабязна выяўляе акурат гэтую прыналежнасць нечаканых гасцей Старо — яны злодзеі. Адзін з іх — Поршань — бандыт па прызванні і перакананні (і гэта падкрэслена ў выкананні А. Падабеда); другі — хісткі, дурнаваты, наіўны Іван — нават спадзяецца выбрацца з пасткі, у якую трапіў зусім выпадкова (А. Лабуш даволі жыва паказвае неспадзяванасць лёсу свайго персанажа). Ды толькі ўсім з гэтага трыо на чале з Чалавекам у капелюшы падабаецца здзекавацца з гаспадароў дачы-атэлье і гвалціць іхнюю волю.

**А ці толькі гэта адлюстравана ў п'есе? Не, маральная, на мяжы філасофіі, спрэчка, паміж Чалавекам у капелюшы і Старо ўскосна — уцягвае і гэтых хаўруснікаў. Яны не думаюць і не разважаюць, бо ўвесь час чакаюць пагоні і помняць, што ў рэшце рэшт асуджаны за свае ўцёкі з турмы. Ім не надта карціць разважаць пра мараль. Ды і сам Чалавек у капелюшы вымушаны падтрымліваць размову са сваім галоўным апанентам на ўзроўні нервовых выбухаў і амаль істэрычнага ляманту Старо. Канфлікт выглядае сваркай, ператвараецца ў дадатак да дэтэктыўнага сюжэта, дзе гледачу прапануецца сачыць і чакаць: ці здолеюць злачынцы ўцячы далей пад прыкрыццём начной цемры з дапамогай заложнікаў — Старо і Машы, або тыя прамарудзяць час і здадуць гасцей міліцыі...**

**Атрымліваецца даволі «правільная» (не горш за іншых) па знешніх прыкметах тэатральнага відовішча пастаноўка даволі «пісьменна пабудаванай» драмы. Адчуванне неабходнасці ўключэння такога драматургічнага твора ў рэпертуар акадэмічнай сцэны, якой наканавана выводзіць у святло рампы змястоўныя па жыццёвай важкасці канфлікты і іх носьбітаў, не адчуваеш. Спектакль не далучае нас, гледачоў, да пэўнага роздуму пра тое, што хвалюе нас таксама — і не менш — за стваральнікаў і ўдзельнікаў відовішча, герояў павучальнага лёсу і павучальнай маралі.**

Умоўна кажучы, «анекдот», «канструкцыя» драмы, напісанай У. Дазорцавым, узялі верх над «філасофіяй» таго жыццёвага (хай сабе і экстрэмальнага, як любяць цяпер гаварыць тэатральныя рэцэнзенты) здарэння, якое складае «сюжэт» па-хвацку зробленай п'есы. Акцёры намагаюцца псіхалагічна апраўдаць кожны выпад і пасаж у ролі і абавязкова выглядаць сапраўднымі турэмнымі бывальцамі. Мастак Б. Герлаван пабудаваў амаль дакладную ва ўсіх дробязях дачу-майстэрню. І клопат пра гранічнае праўдападабенства, якое падаецца сцэнографам досыць маляўніча і выразна, гэты ўвесь антураж, да драбніц адпаведны, мабыць, якой-небудзь дачы-майстэрні кагосьці з членаў Саюза мастакоў БССР, маглі б ператварыцца ў плацдарм для сапраўднага сутыкнення буйных характараў і значных па духоўным змесце працаўнікаў. Сцэна ж толькі падмацоўвае імкненне рэжысуры і выканаўцаў здзівіць нас у зале гэткай тэатральнай натуральнасцю ўсяго, што мы бачым.

Кажуць, выканаўчае спалучэнне В. Белахвосціка з Г. Маляўскім і Г. Фёдаравай не самае ўдалае ў гэтым спектаклі. Наогул, сцвярджаюць знаўцы, на рэпетыцыях, калі Чалавекам у капелюшы бываў В. Тарасаў, а Старо — А. Міласанаў, спектакль набліжаўся менавіта да такога сутыкнення і да такога паядынку. Уважліва глядзеў я прапанаванае ў той вечар купалаўцамі відовішча і, шчыра кажучы, засумняваўся ў магчымасці больш паглыбленага прачытання п'есы ў гэтай яе трактоўцы. Зразумела, тую распаўсюджаную аксіёму, паводле якой пад сціснутым над табою кулаком або прыстаўленым да тваёй скроні пісталетам асабліва разважаць няма калі, спектакль перадае. Сапраўды, мастаку Старо даводзіцца прымаць рашэнні, ад якіх залежыць яго лёс, імгненна.

Дык хто ён, гэты мастак? Што за чалавек? Звычайная пасрэднасць, што ў надзвычайных акалічнасцях раптам (нават нечакана для самога сябе) самаахвярна ўзнімаецца да вяршынь найвялікшага духоўнага гонару, свабоды і незалежнасці? Гэтага няма ў спектаклі. Тут Канстанцін Старо істэрычна перакрэслівае свае ранейшыя адносіны з Машай, бо яна па сваёй жаночай логіцы шукае нейкага кампрамісу з мужчынамі, крыстаючыся ўласцівымі жаночай натуры прыёмамі і абяцаннямі. Ніякага кахання і не было! Так сабе—інтрыжка, выпадковая сувязь з не дужа прыгожай у душы каханкай. Хай «жанчына з партрэта» цяпер блытаецца паміж Поршанем і Іванам, хай дагаджае Чалавеку ў капелюшы: Старо думае пра сябе і толькі пра сябе... Натуральна? Вядома! Але ж і зусім звычайна, я сказаў бы, па - храпікёрску аднаўлены паводле пратакола судовых пасяджэнняў перыпетыі... Не больш! Бог ствараe чарнавік жанчыны, а да дасканаласці яе даводзяць адносіны да яе мужчыны. Дык жа вось і плён твайго «кахання», Старо!..

Магчыма, Старо сапраўды таленавіты мастак, які да сустрэчы з такім разбэшчаным і спустошаным цынікам, як Чалавек у капелюшы, дазваляў сабе апускацца да кампрамісаў, калі трапляў у палон гэтай інтрыганкі Машы або калі згаджаўся дзеля грошай, прызначаных для прыгод з ёй жа, перамалёўваць з фотакарткі партрэт суседа па дачы? І гэтага ў спектаклі няма. Як звычайны прыватнік, гатовы да паслуг, абы яму заплацілі б трыста рублёў, вядзе ён нервовую размову з суседам. Пра жывапісны ўзровень работ гэтага небаракі я сказаў на пачатку сваіх нататак. Таму ніякага пацвярджэння нейкіх выключных чалавечых вартасцей у гэтай фігуры і няма. Няма і ў тым узрушэнні, з якім гэты Старо прымае рашэнне загінуць пад куляй таго ж Поршаня або Івана, але не скарыцца. Наогул, як вядома, чалавеку ўласціва паміраць толькі адзін раз, а калі ён духоўна памірае столькі разоў, колькі даводзяць яго да апошняй мяжы гвалтаўнікі, садысты-следчыя, каты, рабаўнікі, дык ён ужо дзесяць разоў труп, і тады ягоная вонкавая рашучасць успрымаецца кульмінацыяй звычайнага адчаю. Так і адбываецца са Старо ў спектаклі «Пакуль не сцямнее...».

А побач — набычаны Чалавек у капелюшы. То па-бандыцку апантана шалёны, то зусім, здаецца, абыякавы і да Машы, і да Старо, і да ўсяго навакольнага, то раптам дасведчаны ў пытаннях выяўленчага мастацтва і яго прызначэння ў эстэтычным выхаванні працоўных, то падкрэслена абыходлівы ў адносінах да інтэлігента і да яго жанчыны. Цяжка зразумець, навошта ён усчынае свой эксперымент на гэтай дачы, каб давесці няхітрую думку пра тое, што ўсе людзі ад прыроды і дагэтуль звяры, і выявіць гэта можна ў пэўны час і ў пэўных умовах. І ствараe ўмовы, каб паказаць Старо, што той здрадзіць сваёй каханай і палезе сляпіцай у паслугі да ўзброеных злачынцаў з моцнымі кулакамі. Эксперымент зрываецца напярэдадні таго, як сюды з'явіцца па шашы і з паветра верталётам міліцыя. Тады куля сабе ў лоб, пад брыль капелюша... Крах!

**Як мне падалося, п'еса дае магчымасць узрушыць гледача ў тэатры супрацьстаяннем чалавека, які паміж прапанаваным яму жыццём на каленках або гонарам выбірае гонар (гэта Старо), агрэсіўнай і цынічнай сіле Чалавека ў капелюшы. Свабода перамагае прымус. Гэта ж акт найвышэйшай мужнасці, калі мужчына ў росквіце свайго таленту свядома ідзе на гібель і рашуча адмаўляе хай сабе і спакуслівае, але канчаткова прыніжанае, ганебнае, подлае існаванне «пасля». Пасля здрады самому сабе. Далёка не ўсе вартыя пашаны ў нармальных абставінах людзі вытрымліваюць такое выпрабаванне ў надзвычайнай сітуацыі, і ставіць ім у віну іхнюю слабасць на допытах або перад пагрозай тэрарыстаў нельга. Але нясконаны выклікае такую вялікую павагу! Такое ўдзячнае захапленне, быццам гэта пра яго некалі гаварыў паэт — з сонцам у крыві. Нязгасным сонцам... Нічога блізкага да гэтага спектакль купалаўцаў не мае. Не тыя ў ім персанажы. Не тыя постаці.**

Ці варта было тэатру дзеля ілюстрацыі трывіяльнай думкі і па-мастацку добрасумленнага аднаўлення на падмостках прэтэнзійнага крымінальнага выпадку з вострым дэтэктыўным сюжэтам ставіць гэтую п'есу? А мог бы спектакль быць сугучным таму, што адбываецца цяпер у нашым грамадстве, і не менш за адкрыта ілюстрацыйную «Надзежду Путніну...», калі б сцэна выпраменьвала больш глыбокія асацыятыўныя эмацыянальныя імпульсы. Акадэмічны тэатр не мае права задавальняцца слізганнем па паверхні фабульных хадоў п'есы і сцэнічным праўдападабенствам персанажаў.

Трэба спадзявацца, што купалаўцам і перш-наперш А. Андросіку, п'еса В. Дазорцава падабаецца. У такіх выпадках, як казаў У. Меерхольд, рэжысёр, чытаючы п'есу, нават міжволі «ўвесь час сачыняе смачныя рэмаркі». Іншымі словамі, ён складае змястоўную партытуру таго відовішча, якое абапіраецца на крылы аўтарскага тэксту і шчодрага творчага ўяўлення пастаноўшчыка і выканаўцаў ролі. На жаль, у дадзеным выпадку пануе на сцэне толькі першае ўражанне ад тэксту драматурга. Уражанне павярхоўнае.

**Барыс БУР'ЯН.**

**ПРЭМ'ЕРЫ**



Сцэна са спектакля. Фота Ул. КРУКА.

**«Драматычны дывертысмент» — так вызначыў жанр сваёй новай п'есы «І быў дзень» («Звалка») Аляксей Дудараў. Спектакль па ёй паставіў на сцэне Рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. Маслюк. Мастак—Ю. Тур, кампазітар—У. Кандрусевіч.**

**У ролях заняты А. Дударанка, І. Мікалаеў, В. Клебановіч, В. Янкоўскі і іншыя.**

З пошты аддзела музыкі

# «Культура — не раскоша...»

МАРУ пра той час, калі ў кожнай школе будзе сімфанічны аркестр, драматычны тэатр, капэла. Чаму б і не? Усё ж і пачынаецца з мары... А пакуль, вось ужо два гады доўжыцца, па ўсёй краіне, абмеркаванне школьнай праграмы. І многія ўдзельнікі абмеркавання пагаджаюцца на тым, што ўхіл колішняй праграмы да навук дакладных не апраўдаў сябе. Што ў школе трэба замацоўваць і развіваць нашы галоўныя эстэтычныя набыткі.

Ды толькі хто гэтым будзе займацца?

Агульны адукацыйны ўзровень школьных настаўнікаў у галіне мастацтва, культуры невысокі — пра гэта гаварылася неаднойчы і са старонак «ЛіМа». Таму нельга не пагадзіцца з думкай, што выкладаннем эстэтыкі ў школе сёння павінны займацца дзеячы мастацтва.

Чаму кажу менавіта пра школу, а як жа інстытут, ПТВ, заводы? Зыходзячы з уласнага вопыту, а я займаюся асветніцтвам ужо каля 30 гадоў, скажу: змяніць псіхалогію дарослага чалавека, прывучыць яго да мастацтва цяжэй, чым дзіця, ды і вольнага часу ў чалавека, старэйшага за 25 гадоў, менш, турбот больш — праца, побыт, сям'я.

А вось і апошнія довады навукі. У Беларускім дзяржаўным універсітэце летась абаронена кандыдацкая дысертацыя «Псіхалагічныя даследаванні эфектыўнасці ўздзеяння музыкі як складанага гукавога камунікатыўнага сігналу». Аўтар дысертацыі — выкладчык кафедры псіхалогіі БДУ Ларыса Навіцкая. Назва працы мудрагелістая. Я яе згадаў для тых, хто цікавіцца самой праблемай. А ў чым жа сутнасць?

**Наш мозг умоўна падзяляецца на правае «эмацыянальнае» і левае «рацыянальнае» паўшар'і, і паўнацэннае развіццё чалавека немагчыма без раўнамернага развіцця абодвух мазгавых паўшар'яў. У выніку даследаванняў, праведзеных Л. Навіцкай, выяўлена, што толькі мастацтва і найперш музыка можа ўзмацніць кіраванне сістэмнай працай паўшар'яў. Гэта адбываецца незалежна ад нашага жадання. Прычым, дзякуючы лабараторным вопытам, дакладна заўважана, што ў мозгу (дый у арганізме наогул) чалавека, які слухае так званую акадэмічную, джазавую, народную музыку, актывізуюцца спрыяльныя фізіялагічныя працэсы, а калі слухаць цяжкі рок у крайніх яго формах, узнікаюць працэсы разбуральныя — гэта паказвае асцылограф. Вельмі важна, каб з маленства (нават з двухмесячнага ўзросту, расказвала мне Л. Навіцкая) чалавек чуў класічную музыку. Важна і для развіцця асобы, і для гарманічнага фарміравання фізіялагічных функцый (даруйце ўжо такую аналогію, але, як даказана вучонымі, нават расліны лепш развіваюцца пад класічную музыку, і на жывёл яна робіць магічнае ўздзеянне).**

**Словам, чым раней чалавек пачынае атрымліваць багатую музычную інфармацыю, тым больш гарманічна будзе развівацца. Гэтае даследаванне яшчэ раз даводзіць неабходнасць эстэтычнага выхавання, навучання ў агульнаадукацыйнай школе, а ў далейшым — развіцця набытых навыкаў (выпрацоўка звычкі наведваць канцэрты, выстаўкі, тэатр).**

Аднойчы я прапанаваў сваю дапамогу ў правядзенні такіх урокаў у 136-й мінскай школе. Думаў — сустрэнуць мяне з шырокімі абдымкамі. Нічога падобнага. Узніклі розныя агаворкі: то — вучні і без гэтага перагружаныя, то — свае розныя мерапрыемствы, сход, то — «мы ж і так наведваем кіно раз у месяц» і да т. п. І хаця некалькі педагогаў, найперш — настаўніца пачатковых класаў З. Левашэня, падтрымалі мяне, рэгулярныя заняткі наладзіць не ўдалося. Чатыры-пяць разоў на год сустракаюся з вучнямі аднаго і таго ж класа: кола маіх слухачоў не мяняецца, не расце. Дый матэрыяльная база для правядзення такіх сустрэч, мякка сказаць, сціплая. Тут гаворка не пра аплату — я прапаную сваю дапамогу бясплатна. Маю на ўвазе набыццё інструментаў, прайгравальніка, слайдпраектара. Прапаноўваў у той жа школе: купіце піяніна замест разбітага інструмента. Мне адказалі, што грошы пайшлі на афармленне музея. Ды дзверы гэтага музея адчыняюцца толькі раз у год, а піяніна для нашых заняткаў патрэбна штомесяц.

Такім чынам, абыходжуся сваімі сіламі: прыношу пласцінкі, альбомы па мастацтве, рыхтую для дзяцей гутаркі... А як бракуе ім хрэстаматыйнай інфармацыі — пераканаўся з першых жа заняткаў. Перад тым, як паказаць рэпрадукцыю класічных рэпінскіх «Бурлакоў на Волзе», запытаўся ў дзяцей, ці ведаюць яны, хто такія бурлакі. І пачуў кур'ёзны адказ: «Гэта тыя, хто дастае нам нафту». Мелі на ўвазе «буровиков». Затое, як, уваходзячы ў клас, пабачу цікаўныя ўважлівыя вочы, адчую, што раз ад разу больш шчырымі і кемлівымі робяцца мае слухачы, разумею: занятак мой не марны. І мысленна звяртаюся да сваіх калег-музыкантаў, да членаў усіх творчых саюзаў, да маладой мастацкай інтэлігенцыі, студэнтаў: няўжо мы не здатныя «ўсім гуртам» памагчы хоць бы нашым мінскім школам?

Зразумела, калі вырашаць гэтую праблему ў рэспубліканскім маштабе (а вырашаць трэба!), дык спадзявацца толькі на чыюсьці дабрачыннасць нельга. Мы і так страцілі два пакаленні, як сказаў на сустрэчы з тэлегледачамі дырыжор Яўгеній Святланаў.

Мы, прафесіяналы, вінаватыя ў той рок-агрэсіі, якая ідзе ў нас у краіне, агрэсіі, супраць якой не дапамогуць ні Камітэт дзяржаўнай бяспекі, ні армія. Мы ўсё адступалі... А між іншым, тыя ж доследы Л. Навіцкай паказалі: уздзеянне «агрэсіўных» форм рок-музыкі на псіхіку падобна да механічнага паўтарэння набору лічбаў, што сваёй манатоннасцю прыгнечвае творчую дзейнасць чалавека. Развіваецца мазгавая лянота, грубасць, чэрствасць. А чалавек, у якім развіваецца мазгавая лянота, можа падпарадкоўвацца любой камандзе, ператварыцца ў робата.

(Зразумела, я ні ў якім разе не раблю адмоўных абагульненняў наконт усёй рок-музыкі, з'явы складанай. Вядома, што тут ёсць самыя розныя, у тым ліку і прагрэсіўныя, і плённыя плыні, напоўненыя гуманістычным зместам, заснаваныя на здаровых традыцыях музычнай творчасці. У сённяшняй гаворцы маю на ўвазе толькі тупіковыя, бездухоўныя — назаву іх гэтак — адгалінаванні року, музычны сурагат).

Як вядома, апошнім часам у развітых зарубежных краінах у доследных тэхнічных ВНУ замянілі трэцюю частку дысцыплін тэхнічных на гуманітарныя, абавязаўшы інжынераў і тэхнікаў слухаць музыку, вывучаць жывапіс і літаратуру.

Што рабіць, каб больш было ў нас людзей «з Моцартам у сэрцы»? Бо чалавек, які разумее жывапіс, шчыра любіць музыку і тэатр, не дазволіць сабе хамства за прылаўкам крамы, яму будзе ніякавата «цягнуць» з прадпрыемства. І ўжо напэўна такі чалавек выгадуе дастойных дзяцей сваіх, а гэта зусім для нас неабыякава: каб не паўтарыліся тыя страшныя дні, калі знішчалася наша інтэлігенцыя, той залаты фонд, які дае імпульс развіццю і ўдасканаленню навукі, тэхнікі, мастацтва.

Не магу стрымацца, каб не прывесці выняткі з надзвычай лаканічнага і надзвычай надзённага артыкула 28-гадовага камісара-ленінца Фёдара Раскольнікава з газеты «Военмор» 1920 г., які ўжо ў нашы дні апублікавала «Советская культура». Удумаемся ў сэнс гэтых радкоў: «У барацьбе за сацыялізм пралетарыяту неабходна прайсці тры стадыі рэвалюцыі: за палітычную ўладу, за грамадскую ўласнасць, за культуру... Першы этап рэвалюцыі пралетарыят Расіі прайшоў параўнальна лёгка... Але за крывавай развязкай другога акта трагедыі пачынаецца трэці і самы пакутлівы акт: воку пераможнай сацыяльнай рэвалюцыі нечакана адкрываецца новы высокі бар'ер, за які накрэслена: «культура»... Аказваецца, культура — не раскоша, не аздабленне жыцця, а найгалоўная ўмова яго, без якой сацыялізм такі самы пусты гук, як дэмакратыя без грамадскай уласнасці... Не будзем хаваць ад сябе, што барацьба за культуру больш складаная і цяжэйшая, чым барацьба за ўладу і за грамадскую ўласнасць... Мы павінны сказаць пралетарыяту: калі ты не хочаш даць патрапіць усім тваім заваёвам у шырокія кішэні «Спецыялістаў»-бюракратаў, дык павінен авалодаць усімі ведамі...»

Глянем праўдзе ў вочы: мы доўга адступалі перад бескультур'ем, далей няма куды. Час нам пераходзіць у атаку, прычым у добра падрыхтаваную атаку, — і студэнтам творчых ВНУ, і Міністэрству культуры супольна з Міністэрствам народнай асветы, і, канечне, самім работнікам культуры і мастацтва.

Досыць адседжвацца ў сваіх саюзах і кантарах, нас чакаюць цікаўныя вочы, чулыя душы і добрыя сэрцы дзяцей.

**Аляксандр МІЛЬТО,**
**артыст Дзяржаўнага камернага аркестра БССР.**

# «А дзе ж наша скрыпачка?..»

**Пенсіянерка В. Лось-Паўлава задавала гэтае пытанне ў лісце, што быў змешчаны ў падборцы чытацкай пошты 5 жніўня 1988 г. Рэдакцыя атрымала ліст з Міністэрства культуры БССР, дзе сказана: «На публікацыю ў газеце «А дзе ж наша скрыпачка?..» накіроўваем высновы загадчыка кафедры струнных народных інструментаў Бел дзяржкансерваторыі заслужанага артыста БССР, прафесара т. Я. П. Гладкова і в. а. загадчыка кафедры скрыпкі, дацэнта т. В. М. Зяленіна. Адначасова паведамляем, што ў цяперашні час разглядаецца пытанне аб арганізацыі навучання вучняў ігры на беларускіх народных інструментах у падведамасных навучальных установах».**
**Такім чынам, публікуем тлумачэнні, высновы і меркаванні спецыялістаў наконт пытанняў нашай чытачкі. Спадзяёмся, што яна будзе задаволена такім грунтоўным і зацікаўленым адказам.**

Скрыпка, сапраўды, з'яўляецца адным з самых любімых інструментаў беларускага народа. Аднак, такога інструмента, як **беларуская народная скрыпка**, асобна не існуе. Усе прафесійныя выканаўцы беларускіх народных танцаў і песень, удзельнікі розных народных ансамбляў іграюць на скрыпках агульнапрынятых мадэляў, форма і акустычныя якасці сфарміраваліся на працягу стагоддзяў. На адной са ступеняў гэтай эвалюцыі існавалі трохструнныя народныя скрыпкі, але, саступаючы чатырохструнным па акустычных дадзеных і тэхнічных магчымасцях, яны зжылі сябе. Цяпер народныя ўмельцы робяць скрыпкі класічнай формы. Кандыдат мастацтвазнаўства І. Д. Назіна, якая займаецца пытаннем вывучэння народных беларускіх інструментаў, піша: «Сучасныя майстры, захоўваючы ўсё лепшае з назапашанага ў народнай практыцы вырабу скрыпак, у той жа час усё больш актыўна вывучаюць навуковыя дадзеныя пра структуру, уласцівасці і акустычныя магчымасці розных парод дрэва, пра ролю асобных частак інструмента ў фарміраванні яго тэмбрава-гукавых якасцяў».

Такім чынам, пытанне павінна ставіцца не пра інструментарый, а пра тое, **што** выконваюць на гэтых інструментах. Выхаваць высакакласнага прафесіянала толькі на творах народнай музыкі нельга, у той жа час мы маем адваротныя прыклады — скрыпачы, якія скончылі кансерваторыю ці музычнае вучылішча, паспяхова працуюць у такіх калектывах, як інструментальны фальклорны ансамбль «Свята» (аналагічны ансамбль створаны і ў Гродне, дзе ім кіруе скрыпач, выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, педагог музычнага вучылішча В. Самуйлін); інструментальны ансамбль Беларускага радыё і тэлебачання (пры ўдзеле саліста, спявачкі, заслужанай артысткі БССР В. Пархоменкі), ансамбль «Харошкі», аркестры Дзяржаўнага народнага хору БССР, Ансамбля танца БССР.

Цяпер скрыпачоў — кіраўнікоў фальклорных ансамбляў рыхтуюць у Мінскім інстытуце культуры. Аднак туды прымаюць асоб, якія скончылі музычнае вучылішча ці, як мінімум, ДМШ. Трэба прызнаць, што ў дзіцячых музычных школах надаецца мала ўвагі вывучэнню народнай музыкі. Адна з асноўных прычын — адсутнасць нотнага матэрыялу. Фальклорнымі экспедыцыямі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР і Белдзяржкансерваторыі збіраюцца запісы народных скрыпачоў, расшыфроўваюцца, але недастаткова шырока папулярызуюцца.

Цяпер становішча павінна крыху палепшыцца. Дацэнт Белдзяржкансерваторыі В. М. Зяленін падрыхтаваў вучэбныя заданні для скрыпачоў-пачаткоўцаў, заснаваныя на беларускіх народных песнях і танцах. Да новага навучальнага года гэтыя «Заданні» выпушчаны Рэспубліканскім метадычным кабінетам па навучальных установах мастацтваў і культуры. Гэты ж аўтар працуе над дапаможнікам для ДМШ, у якім сістэматызуецца фальклорны матэрыял для скрыпкі. Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтрам культуры выпушчаны некаторыя зборнікі, у якіх скрыпка выкарыстоўваецца як акампаніруючы інструмент да народных танцаў. Скарыстанне гэтых матэрыялаў у вучэбнай практыцы, несумненна, будзе выхоўваць у юных музыкантаў любоў да народнай музыкі, надасць навыкі, уласцівыя народнаму музіцыраванню.

Тым, хто цікавіцца больш падрабязна пытаннем пра скрыпку як беларускі народны інструмент, можна парэкамендаваць пазнаёміцца з кнігамі: А. Л. Капілаў. «Скрыпка беларуская», выд. «Беларусь», 1982 г.; І. Д. Назіна. «Беларускія народныя музычныя інструменты», выд. «Навука і тэхніка», 1982 г.

Наконт удзелу народных скрыпачоў у Рэспубліканскім конкурсе імя І. Жыновіча можна сказаць наступнае: кожны прафесійны конкурс (нават не толькі музыкантаў) мае на ўвазе наяўнасць абавязковай для ўсіх удзельнікаў праграмы. У праграму конкурсу музыкантаў-выканаўцаў уключаюцца творы розных форм і жанраў, якія вымагаюць пэўнага ўзроўню валодання інструментам. Народнае скрыпічнае музіцыраванне імправізацыйнае, г. зн. кожны скрыпач іграе **па-свойму**, у асноўным **свой** рэпертуар, пераважна розныя танцы. Розны і ўзровень скрыпічнага майстэрства выканаўцаў. Як правіла, народныя скрыпачы выкарыстоўваюць толькі элементарныя тэхнічныя прыёмы, адсутнічае развітая штрыхавая тэхніка; дыяпазон скрыпкі цалкам не выкарыстоўваецца, вібрацыя ўжываецца абмежавана. Ігру народных скрыпачоў трэба разглядаць не з пазіцый інструментальнага майстэрства, а хутчэй з пазіцый іх індывідуальнай творчасці. Акрамя таго, народнае выканальніцтва з'яўляецца аматарскім, г. зн. кожны з выканаўцаў мае асноўную прафесію, а мэта Рэспубліканскіх конкурсаў выявіць музычна таленавітых і прафесійна падрыхтаваных маладых выканаўцаў, якія ў далейшым маглі б займацца прафесійнай творчай работай — выступаць з сольнымі канцэртамі на лепшых пляцоўках нашай краіны, а таксама за мяжой.

Таму ўдзел народных выканаўцаў у Рэспубліканскіх прафесійных конкурсах не ўяўляецца магчымым. Аднак, відавочна, варта падумаць пра арганізацыю фестываляў народных выканальнікаў: цымбалістаў, гарманістаў, скрыпачоў, розных па складзе ансамбляў. Несумненна, што канцэрты такіх фестываляў будуць цікавыя і павучальныя для ўсіх, у тым ліку і для прафесіяналаў, адкрыюць новыя россыпы народных талентаў.

І яшчэ, відаць, было б мэтазгодным Музычнаму таварыству БССР адкрыць студыі і гурткі па навучанні народнаму скрыпічнаму выканальніцтву (асабліва гэта неабходна ў сельскай мясцовасці), прыцягваючы для перадачы вопыту лепшых мясцовых народных музыкантаў.

Няма сумненняў, што адной з надзённых задач музычнай грамадскасці павінна зрабіцца вывучэнне народнага выканальніцтва.

**Яўген ГЛАДКОЎ,**
**загадчык кафедры струнных народных інструментаў БДК, заслужаны артыст БССР, прафесар;**
**Вячаслаў ЗЯЛЕНІН,**
**в. а. загадчыка кафедры скрыпкі БДК, дацэнт.**

Усебеларускі з'езд у перыяд Ландара і Мяснікова і асабліва ў 1930—1950-х гадах, і ў застойныя часы інакш не называўся як «контррэвалюцыйным зборышчам». Але мінуў усяго год пасля тых падзей, і справа, за якую змагаўся Змітра Жылуновіч і яго таварышы і нават яго іншадумцы, перамагла. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску быў абнародаваны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні БССР. Праз месяц, 2—3 лютага 1919 года, у будынку Мінскага гарадскога тэатра адбыўся Першы Усебеларускі з'езд Саветаў, куды з'ехаліся 230 дэлегатаў з рашаючым голасам. Старшыня УЦВК Я. М. Свярдлоў абвясціў пастанову Прэзідыума УЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі». На гэтым жа з'ездзе былі прыняты дэкларацыі аб устанаўленні федэратыўнай сувязі з РСФСР, аб аб'яднанні часткі Літвы і Беларусі ў Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (ЛітБел), зацверджана 1-я Канстытуцыя БССР. Пра гэтую падзею сведчыць цяпер мемарыяльная дошка на тэатры імя Янкі Купалы.

МІНСКІ Гарадскі тэатр быў адметным будынкам у архітэктурных і інжынерных адносінах. Пабудаваны ён па праекту архітэктара К. Казлоўскага з удзелам інжынераў К. Увядзенскага, В. Мандражы і іншых. Пабудова ўяўляла сабой характэрны ўзор грамадскага будынка эпохі архітэктуры гістарызму. У тэатры сумешчаны стылёвыя прыёмы рэнесансу, барока і класіцызму. У цэлым яго можна залічыць і да неарэнесансу, і да неабарока, настолькі сугучна пераплецены ў ім элементы і прыёмы гэтых архітэктурных накірункаў. Стылёва выразным і прадстаўнічым быў галоўны фасад. Вырашаны ён шырокім двухпаверхавым рызалітам, аздоблены плоскімі пілястрамі з канелюрамі і капітэлямі карынфскага ордэру. Тры высокія вакны на другім паверсе прыгожа аздоблены карнізамі і люнетамі (круглымі ваконцамі) над імі. Завершаны рызаліт масіўным лінейным гзымсам з дробнымі «сухарыкамі», над якім узвышаецца па цэнтру паўкруглы франтон з валютнымі спадамі адкосаў і з пластычнай аздобай на полі. На ўзроўні першага паверха па баках рызаліта размешчаны аднапавярховыя крылы з балюстрадай па версе. У іх размяшчаліся білетныя касы, гардэроб і іншыя тэатральныя службы. Сцены ніжняга паверха аздоблены плоскімі пілястрамі і масіўным рустам. Корпус тэатра па рагах апрацаваны ланцужкамі, а зверху гзымсам, які ўтварае адзіную лінію з гзымсам рызаліта. Над гэтым гзымсам размешчаны атыкавы паверх з буйной паўкруглай аркадай на полі...

Усю гэтую складаную архітэктурную кампазіцыю, планіроўку і аздобу тэатр страціў у 1958 годзе, калі быў перароблены фасад з мэтай атрымання дадатковых плошчаў. Выйгрыш у плошчы аказаўся нязначным, а помнік архітэктуры зняважліва сапсаваны. І не знайшлося тады нікога, хто здолеў бы абараніць гістарычны будынак.

Заслугоўвае ўвагі даволі высокі для XIX стагоддзя ўзровень інжынернага начыння Гарадскога тэатра. Сцэна была высокай, з каласнікамі і свабодным пад'ёмам штанкетаў. Акрамя галоўнай заслоны, была яшчэ супроцьпажарная, апрацаваная вогнетрывалым рэчывам, а пад аркай сцэны вісела вадзяная заслона — труба з мноствам дзірачак, па якой пры пажары пускалася б вада і ўтваралася б такім чынам дажджавая сцяна паміж сцэнай і залай. Водазабеспячэнне з пажарнымі кранамі зроблена па ўсім тэатры.

Асвятленне было напачатку алейным з адным электрычным ліхтаром «у 50 элементаў і 300 свечак». Ацяпленне тэатра каларыфернае, з прымусовай вентыляцыяй. Падлога глядзельнай залы пры дапамозе дамкратаў магла падымацца на адзін узровень са сцэнай. Прымянялася механіка і для кіравання сцэнай (круг, люкі і т. п.).

У сярэдзіне 1960-х гадоў, як працяг тэндэнцыі знішчэння помніка, узнікла праектная ідэя знесці стары тэатр, высекчы даўні Навамейскі стогадовы сквер і зрабіць вялікую парадную плошчу, з якой быў бы відаць будынак ЦК КПБ. Тады гэтая ідэя не прайшла. На гэты раз у помніка знайшліся абаронцы. Аднак, пакуль існуюць носьбіты такіх ідэй, планы, як кажуць, лунаюць у паветры, хоць час і ўмовы, калі яны маглі лёгка ажыццяўляцца, ўжо мінаюць.

Нядаўна адбыўся разгляд конкурсных праектаў (эскіз-ідэй) на добраўпарадкаванне Цэнтральнай плошчы ў Мінску. Ні адзін з прадстаўленых эскіз-праектаў не быў ухвалены і прапанаваны да рэалізацыі. Тым не менш у друку з'явілася публікацыя карэспандэнта БЕЛТА Р. Новікава «Кастрычніцкая плошча: сёння і заўтра», дзе прапагандуюцца антыкультурныя ідэі чвэрцьвяковай даўнасці. Аўтары рэанімацыі некалі адрынутых «пражэктаў» архітэктары А. Шабалін, В. Данілаў, В. Новікаў, скульптары І. Міско, М. Рыжанкоў безапеляцыйна сцвярджаюць: «Сёння ансамбля галоўнай (?) плошчы горада фактычна няма. ...Мы пастараліся ліквідаваць гэтыя недахопы і стварыць цэльны ансамбль». Як жа прапануюць стварыць «ансамбль»? А вельмі проста: гранітную балюстраду і трыбуну разабраць, сквер ліквідаваць, а гістарычны будынак былой праваслаўнай кансісторыі (XIX ст.), дзе зараз музей БВА, — знесці. На расчышчанай тэрыторыі ў цэнтры паставіць помнік барацьбітам за Савецкую ўладу. Такі вось атрымліваецца «цэльны ансамбль», абумоўлены, аказваецца, адной задачай — паставіць помнік. Але якім коштам? (Асобнае пытанне — чаму ўвогуле ставіць помнік на гэтай плошчы?).

Пры гэтым складваецца ўражанне, што аўтары эскіз-ідэі праекта не адчувалі глыбокага пачуцця адказнасці, даючы карэспандэнту наступную інфармацыю: «Упарадкаванне пасадак дрэў у скверы як бы раскрые панараму плошчы, зробіць яе наглядна шырэйшай, з яе будзе добра праглядацца будынак Цэнтральнага Камітэта партыі. Прычым, упарадкаванне зялёных пасадак будзе праводзіцца не сякерай». (Бензапілой, ці што?). А як добра стане, калі знесці гістарычны будынак кансісторыі! «Аглядная кампазіцыя плошчы ад гэтага толькі выйграе, — напісана ў карэспандэнцыі, — значна лепш будуць выглядаць і мінскі Дом афіцэраў, і Дом работнікаў мастацтваў».

Працытаваныя выказванні не заслугоўваюць прафесійнай гаворкі. Гэта хутчэй прыклады з галіны маралі, якія характарызуюць узровень пачуцця абавязку перад гісторыяй і культурай. Бюракратычная псіхалогія праяўляецца ўсюды, дзе інтарэсы асабістыя, прыватныя, карпаратыўныя ставяцца вышэй грамадскіх, нацыянальных, вышэй народнай гісторыі.

Аўтары эскіз-ідэі пры гэтым прафесійна замоўчваюць відавочную акалічнасць, што з «упарадкаваннем» сквера адкрываецца тыл будынка тэатра імя Янкі Купалы. Ну як тады не знесці гэтую аварыйную пабудову, папсаваную, як і музей БВА, у час праходкі метро! Як «раскрыецца» плошча! Стане праглядацца кінатэатр «Піянер»!

Перспектыва існавання тэатра імя Янкі Купалы бачыцца мне ў рэстаўрацыі і аднаўленні яго ранейшага архітэктурнага выгляду, таго выгляду, які бачылі тысячы мінчан і пакаленні акцёраў, таго вобраза, з якім ён увайшоў у гісторыю Беларусі.

# Чароўныя імгненні

## З выстаўкі работ народных умельцаў Брэстчыны

Быў такі выпадак. На адной з выставак народнай творчасці, на якой экспанавалася некалькі работ А. Такарэўскага з Пружан, адзін замежны знаўца керамікі ніяк не мог уцяміць, што гэтыя акуратныя глякі прывезены з Беларусі. Унікліва спецыяліст падазрона разглядаў іх з усіх бакоў, нават упрасіў работнікаў выстаўкі дазволіць памацаць арыгінальныя вырабы рукамі, доўга выстукваў па днечку пальцам, а пасля стаяў на сваім, хоць памры: «Мяне вы не пераканаеце, гэта — лацінаамерыканская кераміка... У Беларусі такой з агнём не адшукаеш...» Калі кампетэнтныя работнікі выстаўкі пераканалі, што падману тут няма ніякага, фантазія наведвальніка шукала новыя тлумачэнні. Аргументы былі розныя, давялося яго запэўніць, што Антон Такарэўскі жыў на Брэстчыне і Лацінскую Амерыку нават і ў сне не бачыў, родзічы да яго адтуль ніколі не прыязджалі, так што навучыўся вырабляць кераміку не па мадэлі з-за акіяна. Жыццё яшчэ раз пацвердзіла думку, што розныя майстры зусім розных краін, спасцігаючы няпростыя сакрэты творчасці, часцяком прыходзілі да адных і тых жа адкрыццяў.



Адна з работ майстра малой драўлянай скульптуры М. ТАРАСЮКА з Пружанскага раёна.



Сакрэтамі сваёй творчасці дзеліцца Л. ГРЫГОР'ЕВА з Брэсцкага раёна.

Фота Ул. КРУКА.

Калі размова ідзе пра ўмелага майстра чорнай керамікі А. Такарэўскага, якога, на жаль, ужо няма ў жывых, нярэдка ўспамінаюць пра гэты выпадак. На выстаўцы былі прадстаўлены работы пружанскага ўмельца «Гладыш», «Патэльня», «Гляк». Яны чаруюць вока бліскучым глянцам, быццам рука гарэзлівага мастака пакрыла іх тонкім слоем дарагога лаку, арыгінальныя малюнкі чорнага колеру ўпрыгожваюць сценкі посуду. Пераканаўча даказана, што керамічны посуд А. Такарэўскага вытрымлівае такую высокую тэмпературу, ад якой не могуць уцалець звычайныя керамічныя вырабы.

Наведвальнікі выстаўкі спыняліся каля работ майстра малой драўлянай скульптуры М. Тарасюка з Пружанскага раёна. Веру сцвярджэнню арганізатараў выстаўкі, што такім рамяслом займаецца адзін чалавек ва ўсёй вобласці, так сказаць, працуе па-за канкурэнцыяй.

Толькі валодаючы рукою таленавітага самаробка і маючы нораў вялікага цярпліўца можна было брацца за работу «Сялянскі падворак», у якой выкарыстаны дрэва, лаза і саломка. На плошчы ў адзін квадратны метр быццам спрактавана сялянская сяліба: драўляная хата з круглай буслянкай на страсе, невялікі хляўчук з расчыненымі дзвярыма, праз якія выглядвае на падворак буронка... Так і здаецца, што рыпіць калодзеж з жураўлямі... І на фоне такой вечнай ідыліі стаяць задуменна на падворку двое гаспадароў хаты...

Ціхім і вялікім смуткам прасякнута ўся работа. Адразу нават не ведаеш, чаму так маркотна становіцца на душы ад гэтага відовішча. Пасля ўсё разумееш: у яе глыбока западае трагічная праўда жыцця. Сотні, тысячы такіх падворкаў у прадчуванні блізкага канца прыхаваліся ў «неперспектыўных» вёсачках, у якіх сёння няма каму нават «адгаласіць» нябожчыка.

У аснову найбольш складаных работ пакладзены цікавыя і тыповыя з'явы з жыцця нашых вёсак. Той, хто добра знаёмы з рытуальнымі абрадамі народа, можа мець некаторае ўяўленне пра работы А. Тарасюка па іх назвах, нават не наведаўшы выстаўку: «Вяселле», «Хаўтуры», «Ткачыха» («Кросны»).

Вырабы з саломкі прадстаўляў сам аўтар — Л. Грыгор'ева з Астрамечава Брэсцкага раёна. Сакрэты саломапляцення пераймае цэлы клас мясцовай школы, гэтым відам народнай творчасці захапіліся выхаванцы дзіцячага сада. Наперадзе ў аўтара нечаканая задума — стварыць казачны спектакль «Купалле», усе дзеючыя асобы якога будуць выраблены з саломкі.

Глядзіш на качалку Я. Шаўчука з Бярозы, зробленую з лазы і дрэва, і здаецца, што ў такой калысцы нават богу не сорамна люляць сваё дзіця, а ў крэсле, якое змайстраваў М. Пілюцік з Пружан, любы цар меў бы за гонар прымаць ганарлівых паслоў, што прыбылі да яго за трыдзевяць зямель...

На выстаўцы наведвальнікі ўбачылі огаўскі распісны куфар, кераміку з вёскі Гарадная Столінскага раёна, вялікую колькасць мотальскіх ручнікоў і драўляныя скульптуры І. Супрунчыка са Столінскага раёна. Цэлая зала была адведзена пад экспазіцыю «Народныя ўбранні Брэсцкага краю», дзе дэманстравалася адзенне Дамачаўскага і Маларыцкага, Ляхавіцкага і Давід-Гарадоцкага рэгіёнаў.

Аналізуючы гэтую выстаўку і тыя, якія даводзілася бачыць раней, вяртаючыся да размоў з арганізатарамі падобных выставак і іх удзельнікамі, міжволі прыходзіш да невясёлага вываду, што нашы народныя рамёствы паступова і неўпрыкмет знікаюць з роднай зямлі. Гэта, так сказаць, інфармацыя да разважанняў, і яна датычыць не толькі Брэстчыны.

Расказваюць, што ў пачатку нашага стагоддзя ў Пружанах працавала больш за сотню ганчароў, вырабы якіх славіліся далёка за межамі Беларусі. У тыя гады ў вёсцы Гарадная Столінскага раёна арыгінальны посуд выраблялі з мясцовай гліны. Дажыла свой век калгасная майстэрня па вырабу керамічнага посуду гадоў дзесяць назад, і пра былую славу гарадзенцы сёння толькі ўспамінаюць.

Не так даўно як гістарычную рэліквію змясцілі газеты фота апошняга жывога гусляра з-пад Маладзечна М. П. Такушэвіча, у тэкстоўцы прыпадносячы гэты факт як сенсацыю, маўляў, адшукалі 86-гадовага гусляра... І не прыкмеціў я чалавечай тугі ў гэтай інфармацыі, што знікае з нашай зямлі яшчэ адно культурнае рамяство, якое стагоддзямі жыло ў народзе.

Імкліва бяжыць час, і пакідаюць нашу зямлю лепшыя народныя ўмельцы, а мы ўсё **разважаем** пра павагу да іх... **Думаем** аб'яднаць такіх майстроў у кааператывы... **Мяркуем** у самы бліжэйшы час прывіць моладзі любоў да народных промыслаў...

А пакуль што... Пакуль што мы ўсе адзін аднаго пераконваем у крайняй неабходнасці вывучаць і захоўваць добрыя традыцыі і звычаі, самым актыўным чынам развіваць народныя рамёствы...

**В. ЛАПЦІК.**

Іван ЛАСКОЎ

# ЯК ЯНА ПАЧЫНАЛАСЯ

## РОЗДУМ НАД РАМАНАМ АБ ВАЙНЕ

НАУРАД ці хто з савецкіх людзей, асабліва з тых, каму вайна прынесла пакуты і смерць блізкіх, стане спрачацца з тым, што напярэдадні другой сусветнай вайны адзінай у свеце сацыялістычнай дзяржаве трэба было паводзіць сябе так, каб не ўвязацца, нават выпадкова, у схватку імперыялістычных драпежнікаў. Сталін меркаваў інакш. Не для таго ён некалькі пяцігодак будаваў рукамі народа ваенную прамысловасць, ствараў і муштраваў шматмільённую армію, каб «назіраць з гары, як грызуцца тыгры». Такая ўжо схільнасць ганарыстых і ўладных людзей — назапашаны ваенны патэнцыял непазбежна ўключаць у работу.

Пад такое жаданне падганялася і марксісцка-ленінская тэорыя вайны, падмяняючыся тэорыяй «ленінска-сталінскай». «Бальшавікі не былі простымі пацыфістамі (прыхільнікамі міру), што ўздыхалі аб міры і абмяжоўваліся прапагандай міру,—абвяшчаў «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», які выйшаў у 1938 годзе. — Бальшавікі не былі супраць **усялякай** вайны. Яны былі толькі супраць захопніцкай, супраць імперыялістычнай вайны.

Бальшавікі лічылі, што вайна бывае двух родаў: а) вайна справядлівая, незахопніцкая, вызваленчая, якая мае на мэце абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення, ці вызваленне народа ад рабства капіталізму, ці, нарэшце, вызваленне калоній і залежных краін ад прыгнёту імперыялістаў, і б) вайна несправядлівая, захопніцкая, якая мае на мэце захоп і заняволенне іншых народаў» (стар. 161).

Няцяжка заўважыць, што па гэтай тэорыі любая вайна сацыялістычнай дзяржавы супраць капіталістычнай аб'яўлялася справядлівай: бо мэтаю такой вайны заўсёды магло быць абвешчана «вызваленне народа ад рабства капіталізму». Надалей заяўлялася адкрыта: «Сацыялістычная дзяржава па сваёй прыродзе можа весці толькі справядлівыя войны» (ВСЭ, выд. 2-е, т. 8, стар. 573. Тэкст падпісаны да друку 16 лістапада 1951 года).

Ці трэба даказваць, што У. І. Ленін не мае да гэтай «тэорыі» ніякага дачынення?

Удзел СССР у буйнамаштабных ваенных дзеяннях пачаўся не ў 1941 і нават не ў 1939 годзе. Першая прыкметная схватка адбылася ў Іспаніі. Як бачым, і ў тыя, больш раннія гады, Сталін на гітлерабоязь не хварэў.

У 1938 годзе вайна ў Іспаніі працягвалася. Таму не дзіўна, што, ужо знаходзячыся фактычна ў стане вайны з Гітлерам, Сталін так адважна рваўся на дапамогу Чэхаславакіі праз польскую і румынскую тэрыторыі. Вайна ж усё адно ішла.

Аднак вайна з фашызмам у Іспаніі да сакавіка 1939 года была прайграна. Менавіта з гэтага моманту і пачынаецца новы этап у савецка-германскіх адносінах. І XVII з'езд ВКП(б) прайшоў у тым жа сакавіку.

У чым тут справа? Як відаць, да гэтага часу скончылася поўнае перараджэнне Сталіна з дзеяча рэвалюцыйнага руху ў манарха-абсалютыста, які надалей кіраваўся не інтарэсамі народаў, а ўласнымі інтарэсамі і сімпатыямі, а таксама ўласным, звыродлівым разуменнем свету і працэсаў, што адбываліся ў ім.

Наколькі дзіўна ўспрымаў Сталін германскі фашызм, сведчыць яго прамова на ўрачыстым пасяджэнні 6 лістапада 1941 года, прысвечаным гадавіне Кастрычніка: «Па сутнасці справы гітлераўскі рэжым з'яўляецца копіяй таго рэакцыйнага рэжыму, які існаваў у Расіі пры царызме». Такое, значыць, было яго разуменне фашызму! Чаго ж здзіўляцца, калі пры ім фашыстамі аб'яўляліся абы-хто: і Пілсудскі, і лідэры балтыйскіх краін, і нават Ціта.

У тым жа дакладзе Сталін «па костачках» разбіраў назву гітлераўскай партыі: яна, маўляў, і не сацыялісцкая, і не нацыяналісцкая. Што не сацыялісцкая—з гэтым спрачацца не будзем, але чаму ж не нацыяналісцкая? Яна, гаворыць Сталін, **была** нацыяналісцкай, калі «збірала» нямецкія землі: Рэйнскую вобласць, Аўстрыю і г. д. Пасля таго, як напала на Савецкі Саюз, яна стала **імперыялісцкай.**

Такі быў тэарэтычны ўзровень «карыфея», які лічыў сябе галоўным распрацоўшчыкам пытання аб нацыянальных адносінах!

Але гэта не ўсё. Чытаючы развагі аб ператварэнні нацыяналісцкай партыі ў «імперыялісцкую», міжволі адзначаеш: каб нацысцкая партыя засталася «нацыяналісцкай», каб яна не стала «імперыялісцкай», гэта Сталіна цалкам бы задаволіла. У тым, што Гітлер «збіраў» «нямецкія» землі — тую ж Чэхаславакію, Аўстрыю, Польшчу, Сталін грэху не бачыў. Знаходзіў і нешта агульнае ў лёсах Германіі і СССР. На гэта ўказвае прамова Молатава, сказаная 31 жніўня 1939 года:

«Гісторыя паказала, што варожасць і вайна паміж нашай краінай і Германіяй былі не на карысць, а на шкоду нашым краінам. Самымі пацярпелымі з вайны 1914—1918 гадоў выйшлі Расія і Германія (голас: «Правільна!»). Таму інтарэсы народаў Савецкага Саюза і Германіі ляжаць не на шляху варожасці між сабою».

Тут, вядома, маецца на ўвазе, што накшталт таго, як Германія страціла па Версальскім міры частку тэрыторыі і ўсе калоніі, у складзе СССР не аказалася былых земляў Расійскай імперыі—Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі, Фінляндыі, Бесарабіі. Пры гэтым быццам заплюшчваліся вочы на тое, што ў страце значнай часткі гэтых земляў была вінавата менавіта Германія. Важней, маўляў, іншае—што ў СССР і Германіі падобны лёс.

У гэтай падобнасці быў і другі, больш важны бок, чым узаемнае спачуванне. Саюз з Англіяй і Францыяй не абяцаў перадзелу Еўропы. У такім перадзеле пераможцы ў першай сусветнай зацікаўлены не былі. Наадварот, усе іх намаганні былі скіраваны на тое, каб захаваць еўрапейскі статус-кво (хоць часам і рабілі ўступкі, як засведчыла мюнхенская змова). У саюзе з Англіяй і Францыяй цяжка было спадзявацца на аднаўленне ранейшых граніц Расіі, да чаго, уласна, для пачатку і імкнуўся Сталін, як паказалі падзеі 1939—1940 гг.

Германія ж, наадварот, прагнула новага перадзелу Еўропы. Таму, пацярпеўшы паражэнне ў Іспаніі і расчараваўшыся ў еўрапейскім рэвалюцыйным руху, няздольным выратаваць хоць бы адну сацыялістычную рэспубліку, Сталін задумаў саюз з Гітлерам. Гэты саюз, вядома, задумваўся не навечным, а як тактычны сродак, з дапамогай якога можна было далучыць да СССР былыя землі Расіі.

Так быў зроблены намёк Германіі на XVIII з'ездзе. З гэтага моманту, як прызнаў Молатаў, пачынаецца пошук ўзаемаразумення паміж СССР і Германіяй. Але фармальна палітыка заставалася ранейшай, з арыентацыяй на Англію і Францыю супраць Германіі. У красавіку ў Маскве пачаліся савецка-англа-французскія перагаворы. Перагаворы гэтыя, як вядома, доўжыліся ажно да заключэння пакта аб ненападзе паміж СССР і Германіяй і скончыліся нічым. Раманіст ва ўсім абвінавачвае каварных французаў і англічан, асабліва апошніх. «Зрабіўшы цэлы каскад хітрых манеўраў, Англія і Францыя ўхіліліся ад падпісання пагадненняў». А тым часам немцы быццам бы заявілі: альбо вайна, альбо пакт аб ненападзе.

«Дык вось, альбо немінучы пачатак вайны з Германіяй летам 1939 года—і гэтая вайна пагражала ператварыцца ў «крыжовы паход» аб'яднаных сіл капіталістычнага свету супраць СССР, альбо пагадненне з Германіяй. Савецкі ўрад палічыў разумным пайсці на пагадненне».

Баюся, што ўсё гэта далёка ад праўды. Пачаць з таго, што **«летам»** 1939 года вайна Савецкаму Саюзу ніяк не магла пагражаць. Бо вайна Германіі супраць Польшчы, якая адкрыла другую сусветную вайну, пачалася, калі лета ўжо скончылася,—1 верасня. А не прайшоўшы тэрыторыю Польшчы, Гітлер напасці на СССР не мог. Прадастаўляць Германіі калідор для нападу на СССР Польшча не збіралася. Значыць, Гітлер спачатку павінен быў Польшчу заваяваць. Пасля вайны любым войскам патрэбна перадышка, прывядзенне ў парадак, пераасністка. Раней, чым надыдзе зіма, усё гэта не скончылася б, а зімой войны не пачынаюць. Значыць, і без пакта Савецкаму Саюзу былі гарантаваны, прынамсі, 9—10 месяцаў.

Па-другое, прапануючы пакт аб ненападзе, вайной не пагражаюць. У такіх выпадках знаходзяць іншыя, больш прыемныя словы, а то і абяцанкі. Абяцанкі, сапраўды, былі. Раманіст сам гаворыць пра іх: «Рыбентроп... прапанаваў падпісаць савецка-германскі сакрэтны пратакол, які б размежаваў інтарэсы абедзвюх краін па лініі «на ўсім працягу ад Чорнага да Балтыйскага мора». Раманіст завяршае гэтую тэму так: «Савецкі ўрад адхіліў гэтыя прапановы». Але ж дзейнічаў пасля ў адпаведнасці з імі...

Па-трэцяе, пра англа-французска-савецкія перагаворы. І тут, здаецца, было не так, як пераконвае раманіст. Перш за ўсё, хто быў больш у іх зацікаўлены? Раманіст сцвярджае, што большая небяспека пагражала нам—значыць, больш зацікаўлены былі мы. Ці так гэта? Думаецца, не так. У СССР з Германіяй не было агульнай граніцы, а ў Францыі—была. І Англія ад Германіі аддзелена толькі нешырокім морам. Зусім не тое, што СССР—трэцімі дзяржавамі. Гэта—па-першае. Па-другое, ці былі ў Германіі тэрытарыяльныя прэтэнзіі да СССР? Не, СССР былымі германскімі тэрыторыямі не валодаў. А да Францыі? Былі (Эльзас). Да Англіі? Былі (калоніі). Па-трэцяе, і Англія, і Францыя былі звязаны ўзаемнымі абавязацельствамі з Польшчай, якія абавязвалі іх аб'явіць вайну Германіі нават і ў тым выпадку, калі Германія нападзе не на іх, а на Польшчу (што пазней і здарылася). Дык каго ж больш турбавала, будзе заключана антыгерманскае пагадненне ці не?

Аб тым, што гэта больш турбавала не Сталіна і Молатава, гаворыць хоць бы тое, што перагаворы праходзілі ў Маскве, а не ў Лондане ці Парыжы, не на нейтральнай тэрыторыі. СССР паводзіў сябе на гэтых перагаворах па-гаспадарску: запрасіў, каго хацеў, — нягледзячы на тое, што аказанне мяркуемай савецкай дапамогі было звязана з парушэннем граніц Польшчы і балтыйскіх краін, прадстаўнікі гэтых краін на перагаворы не запрашаліся. І невыпадкова. Як паведамляла ТАСС («Известия», 2 жніўня 1939 г.), «у сваёй прамове ў палаце абшчын парламенцкі намеснік міністра замежных спраў п. Батлер сказаў, як перадае друк, што англійскі ўрад прымае ўсе меры да ліквідацыі рознагалоссяў паміж СССР і Англіяй, галоўным з якіх з'яўляецца пытанне аб тым, ці павінны мы замахвацца на незалежнасць прыбалтыйскіх дзяржаў ці не. Я згодзен, сказаў п. Батлер, што мы не павінны гэтага рабіць, і менавіта ў гэтым заключаны галоўныя прычыны зацяжкі перагавораў». Англічане і французы пайшлі нават на тое, каб паслаць у Маскву ваенныя місіі, не чакаючы заканчэння палітычных перагавораў (гл. той жа нумар «Известий», прамову Чэмберлена).

Ішла на гэтых перагаворах гаворка і пра Польшчу. У «Інтэрв'ю т. Варашылава аб англа-франка-савецкіх ваенных перагаворах», змешчаным у «Известиях» 27 жніўня 1939 года (інтэрв'ю супрацоўніку «Известий»), ёсць і такое пытанне: «Дыпламатычны аглядальнік газеты «Дэйлі Геральд» піша, што ваенныя місіі Англіі і Францыі быццам бы спыталі ў савецкай місіі, «ці гатовы СССР забяспечваць Польшчу самалётамі, боепрыпасамі і трымаць у гатоўнасці на граніцы Чырвоную Армію, а савецкая ваенная місія быццам бы адказала на гэтую прапанову: «неадкладна пасля пачатку вайны акупіраваць Вільню і Навагрудак на паўночным усходзе, а таксама Львоўскае, Тарнопальскае і Станіслаўскае ваяводствы на паўднёвым усходзе, што з гэтых раёнаў Чырвоная Армія магла б аказаць палякам ваенную дапамогу, калі гэта спатрэбіцца». «Як вы расцэньваеце гэтую заяву (...)?» На такое прамое пытанне прагучаў і не меншы прамы адказ старога рубакі: «Гэтая заява з'яўляецца ад пачатку да канца лжывай, аўтар яго—нахабным хлусам, а газета, якая надрукавала гэтую лжывую заяву свайго дыпламатычнага аглядальніка, — паклёпніцкай газетай».

Ну, а чым жа тлумачыў сам т. Варашылаў правал перагавораў? Зусім не тым, чым раманіст: «Савецкая ваенная місія лічыла, што СССР, які не мае агульнай мяжы з агрэсарам, можа аказаць дапамогу Францыі, Англіі, Польшчы толькі пры ўмове пропуску яго войск праз польскую тэрыторыю, бо не існуе іншых шляхоў для таго, каб савецкім войскам увайсці ў сутыкненне з войскамі агрэсара... Нягледзячы на ўсю відавочнасць правільнасці такой пазіцыі, французская і англійская ваенныя місіі не згадзіліся з такой пазіцыяй савецкай місіі... Гэтая акалічнасць зрабіла немагчымым ваеннае супрацоўніцтва СССР і гэтых краін».

Ці можна было прыдумаць з такога выпадку што-небудзь больш смехатворнае! Навошта ж ехалі ў Маскву ваенныя місіі Англіі і Францыі, калі яны ставілі ўмову, каб у выпадку вайны Германіі з Польшчай Савецкі Саюз не пераступіў польскай граніцы!

Значыць, як можна зразумець, на гэтых перагаворах ішоў гандаль: палохаючы германскай пагрозаю і сваёй адмовай у дапамозе, савецкі бок спрабаваў дамагчыся ад Англіі і Францыі згоды на далучэнне Прыбалтыкі і часткі тэрыторыі, падпарадкаванай Польшчы,—у абмен на ваенную дапамогу. Аднак Англія і Францыя да 1 верасня 1939 года былі самаўпэўненыя—уяўленні аб сіле Германіі лідэры гэтых краін мелі з тых жа артыкулаў і кніг, што і Сталін. Ісці на такія ўступкі «чырвоным» палічылі недапушчальным. І, як вядома, жорстка паплаціліся, асабліва Францыя.

Трэба думаць, на гэтыя перагаворы Сталін і Молатаў—сааўтары знешняй палітыкі СССР таго часу — не надта і разлічвалі. Сваіх мэт яны мелі намер дамагчыся з дапамогаю іншых перагавораў. Пра гэта сведчыць хоць бы той факт, што аб перагаворах з «заходнімі дэмакратыямі» сякія-такія паведамленні ўсё ж былі як у савецкім друку, так і ў заходнім. Перагаворы ж з Германіяй вяліся зусім сакрэтна. (У сцвярджэнне раманіста, быццам бы пакт з Германіяй быў заключаны «раптам», на працягу некалькіх дзён, паверыць немагчыма: знянацку такія справы не робяцца, ды і Молатаў жа прызнаваў, што пачатак перагаворам быў пакладзены ці не XVIII з'ездам). Такім чынам, складваецца ўражанне, што перагаворы з Англіяй і Францыяй былі, па-першае, своеасаблівым манеўрам, каб замаскіраваць галоўныя перагаворы, па-другое, перагаворы гэтыя выкарыстоўваліся для таго, каб аказваць націск на Германію, дамагаючыся большых уступак, у прыватнасці, у Польшчы. Тым жа мэтам служыла і публікацыя такіх артыкулаў, як «Аб войнах справядлівых і несправядлівых» — у нумары «Правды» за 14 жніўня 1939 г.: «Бальшавікі—не пацыфісты! Савецкі народ... абрушыць на фашысцкіх вылюдкаў усю моц жалезных батальёнаў Чырвонай Арміі, усю сілу сваёй перадавой тэхнікі». Зрэшты, на тое, што менавіта ў гэты дзень 14 жніўня Шуленбург заявіўся да Молатава з «сакрэтным пратаколам», паўплываў, вядома, не столькі артыкул, колькі перагаворы ваенных місій СССР, Англіі і Францыі, якія пачаліся 11 жніўня. І, трэба сказаць, на перагаворах з немцамі ўдалося дамагчыся большага, чым пасля ў жыцці: першапачатковая дэмаркацыйная лінія ў Польшчы паміж германскімі і савецкімі войскамі была вызначана па Вісле (карта з гэтай лініяй у канцы верасня 1939 года штодзённа друкавалася ў газетах). Але германскія войскі апярэдзілі, і «канчатковая» граніца была праведзена куды больш на ўсход. Пры гэтым немцы пакінулі Львоў і Беласток, якія паспелі былі заняць.

Апошнім часам у сувязі з работай сумеснай савецка-польскай гістарычнай камісіі раз-пораз мільгае выраз: «дагавор Молатава—Рыбентропа». Але, мне здаецца, намі і палякамі

**(Працяг. Пачатак у нумары за 28 кастрычніка).**

ўкладвасцца ў яго розны сэнс. Мы разумеем яго як дагавор аб ненападзе, палякі ж маюць на ўвазе другі дагавор, таксама падпісаны Молатавым і Рыбентропам: «Дагавор аб дружбе і граніцы паміж СССР і Германіяй» ад 28 верасня 1939 года. Вось урыўкі з яго:

«Артыкул І. Урад СССР і Германскі Урад устанаўліваюць у якасці граніцы паміж узаемнымі дзяржаўнымі інтарэсамі на тэрыторыі былой польскай дзяржавы лінію, якая нанесена на прыкладзеную да гэтага карту і больш падрабязна будзе апісана ў дадатковым пратаколе.

Артыкул II. Абодва Бакі прызнаюць устаноўленую ў артыкуле І граніцу ўзаемных дзяржаўных інтарэсаў канчатковай і не дапусцяць ніякага ўмяшальніцтва трэціх дзяржаў у гэтае рашэнне.

Артыкул III. Неабходнае дзяржаўнае ўладкаванне на тэрыторыі на захад ад указанай у артыкуле І лініі праводзіць Германскі Урад, на тэрыторыі на ўсход ад гэтай лініі—Урад СССР».

Як беларус я не магу не сказаць, што ўз'яднанне Заходняй Беларусі з СССР адпавядала даўнім спадзяванням беларускага народа. Але горка і балюча думаць, што гэта было зроблена ў выніку ганебнай здзелкі.

Тэрыторыя на захад ад намаляванай на карце лініі аддавалася на здзек новым «сябрам» «вялікага правадыра і настаўніка міжнароднага пралетарыяту», як быў ён узвялічаны ў прывітанні Выканкома Камінтэрна ў дзень 60-гадовага юбілею.

Юбілей гэты, дарэчы, прайшоў у абстаноўцы міжнароднай ізаляцыі СССР, выключанага з Лігі Нацый. З замежных дзяржаўных дзеячаў былі атрыманы прывітанні толькі ад Гітлера, Рыбентропа, Чан Кайшы, «прэзідэнта» Славакіі Цісо, міністра замежных спраў Турцыі, міністраў замежных спраў Прыбалтыйскіх краін ды ад О. Куусінена, кіраўніка «фінляндскага ўрада». Як дзіўна і страшна чытаць такі, напрыклад, адказ на адно з гэтых прывітанняў:

**«Міністру Замежных Спраў Германіі пану Іяхім фон Рыбентроп**

Дзякую Вам, пан міністр, за віншаванні. Дружба народаў Германіі і Савецкага Саюза, змацаваная крывёю, мае ўсе падставы быць моцнай.

І. Сталін».

Дружба, змацаваная крывёю! З кім дружба!

Пра гэта раманіст не піша...

ДЫК ВОСЬ, у 1938 годзе Сталін прагнуў схапіцца з Гітлерам, а ў 1939-м заключыў з ім, як яму здавалася, вельмі выгадны дагавор. За спіной Германіі, якая закрывала СССР з захаду, удалося не толькі ўключыць у СССР Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, Прыбалтыку, але і дасягнуць тэрытарыяльных набыткаў за кошт Румыніі і Фінляндыі—краін, над якімі апекаваліся Англія і Францыя. Ды толькі гэта бяспеку СССР не ўмацавала, а наадварот, паслабіла: па-першае, паявілася агульная граніца з Германіяй—патэнцыяльным агрэсарам; па-другое, паявіліся новыя ворагі—Румынія і Фінляндыя, што ў гады вайны падоўжыла фронт на тысячы кіламетраў; Германія ж пры гэтым атрымала румынскую нафту. Акрамя таго, у выніку падзелу Еўропы СССР атрымаў найбольш адсталыя яе краіны, а Германія—найбольш развітыя (Францыю, Бельгію, Нідэрланды), нават у Польшчы заходняя частка была больш развітой, чым усходняя. Наўрад ці Сталін не ўсведамляў гэтага, але ў такіх выніках нічога нечаканага не было, калі б Сталін такіх вынікаў палохаўся, ён бы на пакт не пайшоў.

Пэўнае стратэгічнае паслабленне на працягу 1940 і 1941 гадоў кампенсавалася напружаннем сіл, кінутых на вытворчасць ваенных матэрыялаў, асабліва самалётаў. Як успамінае нарком авіяпрамысловасці таго часу Шахурын, Сталіным яму было дадзена заданне давесці выпуск самалётаў к чэрвеню 1941 года да пяцідзесяці ў дзень! Гэтае заданне было перавыканана. Усяго праз два месяцы пасля пачатку вайны Шахурыну было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Вельмі вялікае ўражанне пакідаюць успаміны тадышняга наркома ўзбраенняў Ваннікава, апублікаваныя часопісам «Знамя» ў першых двух нумарах за гэты год. Вытворчасць танкаў, артылерыі, вінтовак, патронаў была пастаўлена на паток. Паяўляліся новыя віды ўзбраенняў. Па колькасці самалётаў і танкаў Савецкі Саюз пераўзыходзіў Германію. З 1939 года ў тры разы (!) вырасла армія.

Тым часам, пакуль СССР у спакойнай абстаноўцы рыхтаваўся да вайны, Германія ваявала. Яна захоплівала ўсё новыя краіны, але і траціла пры гэтым салдат, самалёты, танкі, траціла боепрыпасы, распыляла войскі на гарнізоны па ўсёй Еўропе, змагалася з рухам Супраціўлення ў Польшчы, Францыі, Грэцыі, Югаславіі, Нарвегіі. Сямідзесяці мільёнаў немцаў, здавалася, не павінна хапіць і для таго, каб замацаваць за сабою заваяванае—куды ім далей!

Першамайскі ваенны парад 1941 года быў задуманы, відаць, як генеральны агляд сіл. Парад у Маскве доўжыўся 1 гадзіну 45 мінут, у Кіеве—паўтары гадзіны. Усюды, акрамя рэгулярных часцей, пячаталі крок «узброеныя атрады працоўных». Па Краснай плошчы ішлі ўсе віды тэхнікі, ад ваенных веласіпедаў і матацыклаў да цяжкай артылерыі. Вось як апісвала гэтае відовішча «Правда»:

«Усеагульнае захапленне выклікае марш артылерыі. Супрацьтанкавыя гарматы. Шматлікая палявая артылерыя. І, нарэшце, цяжкія гарматы. Уся артылерыя ідзе на механічнай цязе. У першых падраздзяленнях гарматы на колах, у наступных—на гусеніцах. Цяжкая артылерыя ўражвае разнастайнасцю тыпаў гармат і іх калібраў. Паволі рухаюцца дальнабойныя гарматы. Далей паяўляюцца магутныя гаўбіцы, здольныя зруйнаваць жалезабетон варожых умацаванняў. Гул захаплення прабягае па трыбунах, калі ў ар'ергардзе артылерыі ідуць звышмагутныя гарматы навейшай канструкцыі. Многія з іх правозяцца ў разабраным выглядзе магутнымі цягачамі.

Парад наземных войск завяршаюць танкі. У вялікай колькасці праносяцца быстраходныя танкі сярэдняга памеру. За імі—цяжкія танкі і, нарэшце, рухомыя сталёвыя крэпасці.

У той час, як перад трыбунамі праходзілі шматлікія танкавыя злучэнні, над Краснай плошчаю паявілася авіяцыя. Гэта была цудоўная дэманстрацыя ўзаемадзеяння наземных і паветраных сіл Чырвонай Арміі. Самалёты ідуць у два ярусы. Хуткасныя бамбардзіроўшчыкі ідуць эскадрыллямі і звёнамі. За бамбардзіроўшчыкамі следам — хуткасныя знішчальнікі. Усеагульную ўвагу прыцягваюць хуткасныя бамбардзіроўшчыкі новай канструкцыі. Хуткасць гэтых машын перавышае ўсё бачанае дагэтуль на Краснай плошчы.

Заключным акордам паветранага параду быў палёт пікіруючых хуткасных бамбардзіроўшчыкаў. Лётчыкі-пікіроўшчыкі прадэманстравалі выдатнае лётнае майстэрства. З вялікай вышыні, на аграмаднай хуткасці яны імкліва пікіравалі над Краснай плошчаю і зніклі гэтак жа імгненна, як і паяўляліся».

А на граніцы ў тыя ж дні, да гэтых дзён і асабліва пасля іх ішла дэманстрацыя іншага роду—дэманстрацыя слабасці і бесклапотнасці.

(Заканчэнне будзе).

## КАМСАМОЛУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

1200 выданняў, выпушчаных вядучымі выдавецтвамі краіны, а таксама рэспубліканскімі выдавецтвамі прадстаўлены на юбілейнай выстаўцы, арганізаванай Дзяржаўным камітэтам выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю ў Доме кнігі. Экспазіцыя, прысвечаная 70-годдзю ВЛКСМ, дазваляе прасачыць шлях, пройдзены Ленінскім камсамолам. Значнае месца на стэндах займаюць выданні, што расказваюць пра гісторыю саюза моладзі, яго выхаванцаў—удзельніках грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, а таксама сённяшніх юнаках і дзяўчатах, якія знаходзяцца на пярэднім краі перабудовы.

Багата прадстаўлены кнігі выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» — зборнікі з серый «Першая кніга паэта» і «Першая кніга празаіка», маляўніча афармленыя выданні для маленькіх.

## ЧАСОПІСЫ-89: планы, задумы, пошукі

Сёння на пытанні нашага карэспандэнта адказваюць галоўны рэдактар часопіса «Нёман» А. Кудравец і першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца» («Родник») М. Кацюшэнка.

### Анатоль КУДРАВЕЦ, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»

— Часопіс «Нёман»—рускамоўны, орган Саюза пісьменнікаў БССР. І адна з галоўных задач яго—прапагандаваць сярод усесаюзнага чытача лепшыя дасягненні беларускай літаратуры. Гэты накірунак, відаць, будзе вытрыманы і ў далейшым?

**— Час перабудовы і шырэйшай галоснасці вымагаюць болей строгага падыходу да фарміравання як гадавога плана часопіса, так і плана кожнага нумара. Задача гэта была няпростая заўсёды, а цяпер ускладнілася непараўнальна. Жорсткі падпісны прэс маскоўскіх часопісаў, кан'юнктура напаўмяшчанскага чытацкага інтарэсу, замешанага болей на пошуку смаленага (нават калі смаленае яўна аддае пахам сваіх жа спаленых валасоў ці касцей), чым ісціны і шляхоў вяртання да чалавека, а таксама здзіўляючая беднасць сённяшняга празаічнага асартыменту мала пакідаюць прасторы для манеўра. Трохі ратуюць публіцыстыка і гісторыя, хаця першая ніяк не можа вылезці з палону абстрактных лічбавых маніпуляцый і знайсці чалавека, а гісторыя чакае чэснага граматнага гісторыка.**

**Адным з самых сучасных празаічных твораў, з якімі часопіс выходзіць да чытачоў у 1989 годзе, з'яўляецца раман Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя». Гэта не гісторыя беларускай літаратуры, а яе сённяшні дзень. І лёс тыповага мяшчанскага выскачкі, яго шлях «з грязі ў князі», лёгкасць прыёмаў, з дапамогай якіх ён гэтага дабіваецца, выклікаюць страх і сёння. Бо за ім бачацца цені правадыроў Брэжневых, Яжовых і многіх, многіх іншых, большых і меншых, але надзіва падобных адзін на аднаго і на свайго функцыянальнага «бацьку» ўсіх народаў.**

**Ліпеньскі нумар мяркуем зрабіць купалаўскім—цярністы лёс Паэта. Тут і пераклад драмы «Тутэйшыя», і вялікая падборка ненадрукаваных, закрытых раней вершаў, і трагічныя 30-ыя гады, і трагічная смерць.**

**Безумоўную цікавасць чытача павінны выклікаць аповесць Івана Шамякіна «Драма» і раман Эдуарда Скобелева «Уцякач», у аснову якога пакладзены падзеі чарнобыльскай трагедыі. Трэба назваць яшчэ раман Леаніда Дайнекі «След ваўкалака», аповесць Лідзіі Арабей «Фімка». У наборы першы нумар з аповесцямі Івана Мялы і Рыгора Кобеца, апавяданнямі Івана Пташнікава і Уладзіміра Салаухіна.**

**Рыхтуюцца да публікацыі апавяданні і аповесці Алены Васілевіч, Яна Скрыгана, Янкі Сіпакова, Алеся Жука, Уладзіміра Арлова, Аляксандра Станюты, Фёдара Конева, Уладзіміра Кудзінава, Міколы Кусянкова...**

— Адначасова будуць друкавацца і лепшыя творы замежных аўтараў у перакладзе на рускую мову?

**— Традыцыйны зарубежны раман. У рэдакцыі ляжыць пераклад (зрабіў яго Карлас Шэрман) рамана Г. Маркеса «Каханне ў час чумы», пакуль што няма дазволу на публікацыю. Ёсць дазвол і пераклад вострасюжэтнага рамана Роберта Ладлэма «Абмен Райнемона». Гэта падзеі другой сусветнай вайны, 1943 год, барацьба амерыканскай і фашысцкай разведак і бізнес амерыканскіх і нямецкіх гандляроў.**

— Публіцыстыка «Нёмана» на сённяшні дзень можа пасапаборнічаць з публіцыстыкай шмат якіх нашых выданняў...

**— Праўда пра мінулае, барацьба з бюракратызмам, вострыя эканамічныя праблемы, пытанні экалогіі і выжывання людзей, зямлю якіх накрыла чарнобыльскае воблака, пытанні медыцыны, жыцця і смерці —над такімі і іншымі тэмамі працуюць для часопіса журналісты і пісьменнікі.**

**Будзем працягваць публікаваць матэрыялы па праблемах навукі. Рыхтуюцца нарысы пра нялёгкі лёс вядомага вучонага-генетыка, былога прэзідэнта АН БССР А. Р. Жэбрака, пра нашага славутага старэйшыну-геолага Г. І. Гарэцкага, пра творчасць нашага земляка Я. Наркевіча-Ёдкі.**

— Час вымагае ажыўлення і ў рабоце літаратурна-крытычных аддзелаў часопісаў. Калі раней «гладкія» артыкулы нікога не хвалявалі, дык сёння іх з'яўленне на старонках выдання проста супрацьпаказана...

**— Ажыўленне ў літаратурнай крытыцы, вастрыня і палемічны характар крытычных дыскусій добра прыкметны і ў нас. Назаву імёны некаторых крытыкаў, якія рыхтуюць артыкулы: Л. Аннінскі, Д. Бугаёў, І. Дзядкоў, Г. Егарэнкава, В. Каваленка. С. Лаўшук, М. Мушынскі. Праведзены «круглы стол» «Наша спадчына», падрыхтавана анкета па пытаннях рэальнага становішча з двухмоўем у Беларусі, у адказе на якую прымаюць удзел В. Быкаў, А. Бучыс, Я. Рокпеліс, А. Разанаў, Ю. Туулік і іншыя. Уладзімір Калеснік піша пра так званую пражскую эміграцыю, рыхтуюцца матэрыялы пра беларускіх літаратараў і дзеячаў культуры, праца і жыццё якіх да гэтых часоў не былі справядліва ацэнены і асэнсаваны: пра В. Ігнатоўскага, А. Луцкевіча, І. Дварчаніна і інш. Безумоўна, цікава будзе прачытаць прамовы Б. Тарашкевіча ў сейме Польшчы 1922—1925 гг., як і матэрыялы біяграфіі Рыгора Шырмы, старонкі з дзённікаў Варлена Бечыка.**

**Зразумела, што вышэйазначанае —усяго толькі нейкая доля з таго шырокага і шматколернага спектру, які будзе запаўняць кожны нумар. Бо ў ім абавязкова будзе прысутнічаць і паэзія—трывожны і хвалюючы голас нашых паэтаў, і роздум пра мастацтва з абавязковымі каляровымі ілюстрацыямі, і нязмушаная гаворка з чытачамі, і голас саміх чытачоў—іх думкі, трывогі, заклапочанасць днём сённяшнім, мінулым і будучым.**

### Міхась КАЦЮШЭНКА, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца» («Родник»)

— Хоць часопісу няма і года, нельга не зазначыць, што ён адразу набыў свой твар. «Крыніцу» («Родник») не зблытаеш з іншымі выданнямі...

**— Часопіс непадобны на іншыя выданні і таму, што ён афармляецца па-сучаснаму, з прыцягненнем мастакоў, якія думаюць смела, мысляць неардынарна. І ўсё ж, не палічыце гэта нясціплым, папулярнасць «Крыніцы» («Родника»), відаць, не толькі ў тым, што ён няблага «глядзіцца». Усё ж галоўнае —змест. Ён, і толькі ён, прычына таго, што з кожным месяцам павялічваецца кола падпісчыкаў, а таксама тых, хто набывае наша выданне ў кіёсках «Саюздруку». Дарэчы, пацвярджэнне таму і тыраж на беларускай мове, які ўжо наблізіўся да сарака тысяч экземпляраў.**

— У асноўным на старонках «Крыніцы» друкуецца маладая паэзія і проза, а яны не надта паддаюцца планаванню. Тым не менш, папярэднія прыкідкі робяцца?

**— «Крыніца» («Родник»), як і кожнае выданне, шукае сваіх аўтараў. Наколькі мы іх «знайшлі» сёлета, меркаваць чытачу, але, думаецца, ён не расчараваўся, сустрэўшы на старонках прозвішчы А. Сыса, А. Бадака, М. Клімковіча, С. Свістуновіча, М. Шайбака і іншых нашых аўтараў. Гэтым жа шляхам — адкрыццё новых імёнаў, падтрымка тых, хто зрабіў першыя крокі ў літаратуру — пойдзем і ў наступным годзе. У першых нумарах будуць змешчаны творы А. Мінкіна, Л. Драньно-Майсюка, У. Арлова, П. Васючэнкі, А. Ярася.**

— Папулярнасць «Крыніцы» ў многім забяспечана і тым, што часопіс шырока адлюстроўвае шматграннае жыццё сучаснай моладзі, расказвае пра найбольш вядомыя маладзёжныя калектывы—вытворчыя і творчыя...

**— Калі паспрабаваць аб'яднаць большасць нашых матэрыялаў, дык яны маглі б згрупавацца ў раздзел «Перабудова і малады чалавек». Чытач заўсёды знойдзе на старонках часопіса адказ на такія пытанні, як камсамол і яго месца ў абнаўленні грамадства, адказнасць кожнага за даручаную справу і далейшае развіццё дэмакратыі. Не абыходзім увагай праблем экалогіі, культуры ў самым шырокім значэнні гэтага слова. «Свае» матэрыялы ў «Крыніцы» знаходзяць старшакласнік і студэнт, навучэнец прафесійна-тэхнічнага вучылішча і малады рабочы. Нашы аўтары (як штатныя, так і пазаштатныя) і ў далейшым будуць даследаваць унутраны свет маладога сучасніка. У полі зроку часопіса пастаянна знаходзяцца і такія антыграмадскія з'явы, як п'янства, наркаманія, прастытуцыя. Пісаць пра іх, значыць, па меры магчымасці зрабіць усё ад нас залежачае, каб іншыя не паўтарылі памылак тых, хто аднойчы аступіўся. Прадоўжым рубрыкі «Музычны тэлетайп», «Хочаце быць прыгожай?», «Давайце пазнаёмімся». Будзем расказваць пра лепшых спартсменаў рэспублікі. І, канечне ж, не адмовімся ад каляровых укладак—будзем друкаваць партрэты зорак савецкай і сусветнай эстрады.**

— «Крыніца» пастаянна звяртаецца і да гістарычнай праблематыкі. Відаць, знойдуць працяг традыцыйныя рубрыкі «Спадчына», «Постаці»?

**— У рэдакцыйным партфелі —нарысы пра вядомых гістарычных дзеячаў Беларусі. Назаву прозвішчы толькі асобных з іх—Філон Кміт-Чарнобыльскі, Казімір Лышчынскі, Ілья Капіевіч... Нарысы гэтыя і будуць прадстаўлены пад рубрыкай «Постаці». Змесцім шэраг іншых публікацый, звязаных з гістарычным мінулым, у тым ліку гісторыка-прыгодніцкую аповесць К. Тарасава «Залатая горка». Забытыя і паўзабытыя творы і аўтары будуць друкавацца пад традыцыйнай рубрыкай «Спадчына».**

**Адкрываем новую рубрыку—«Арыенціры», назва якой гаворыць сама за сябе. Задача гэтай рубрыкі—арыентаваць моладзь у складаных з'явах гісторыі, палітыкі, выпрацоўваць правільны погляд на гістарычных дзеячаў. Сярод аўтараў першых публікацый—вядомыя савецкія філосафы, публіцысты, гісторыкі А. Цыпко, Р. Мядзведзеў, М. Капусцін, Н. Марозава і іншыя.**

Калектыў рэдакцыі часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса Марчанцы Святлане Міхайлаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора—смерці БРАТА.

Саюз пісьменнікаў БССР з глыбокім жалем паведамляе, што 25 кастрычніка на 96-м годзе жыцця памерла маці народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова — Ратабыльская Кацярына Фамінічна і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.

